4 мая 2018 | № 16 (579)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144














# Ініцыятывы каменнага веку

## Як можна адрэгуляваць тое, што рэгуляванню не паддаецца?



Сяргей ПУЛЬША

На гэтым тыдні ў журналістаў — шэраг святаў. 3 мая — Сусветны дзень свабоды прэсы, 5-га — дзень друку, 7-га — дзень радыё і тэлебачання. І ўжо колькі гадоў для беларускіх журналістаў гэтыя святы — са слязамі на вачах. У гэтым годзе слёзы асаблівыя.

Усё праз адвечны стыль працы нашай улады, які нагадвае бразільскі серыял: спачатку ледзь не штучна ствараецца праблема, а потым яна гераічна, цаною цяжкіх высілкаў, пераадольваецца. І добра, каб тыя праблемы пераадольвалі выключна тыя, хто іх стварыў. Але ж у гэтую барацьбу ўцягваюць тых, хто да стварэння праблем дачынення не мае.

Размова ідзе, канешне ж, пра новы варыянт закона аб друку, у якім забараняюцца «ананімныя каментары», рэдакцыі абавязаныя ідэнтыфікаваць карыстальнікаў і гэтак далей. Беларускі закон аб СМІ і без гэтых паправак быў адным з найгоршых у свеце. Зараз яго ў чарговы раз абцяжарылі абмежаваннямі для тэлебачання, газет і сайтаў.

Стыль працы нашых заканатворцаў вельмі цікавы, аж да смеху — калі б не было так сумна. Узяць хаця б тую ж норму па ідэнтыфікацыі каментатараў. Нехта вельмі разумны спусціў законапраект у Палату прадстаўнікоў, дэпутаты яго, амаль не гледзячы, праштампавалі ў першым чытанні. А калі журналісты, якіх гэты закон тычыцца непасрэдна, запыталі, як яго выконваць, — усе разводзяць рукамі.

І ўвогуле, не царская гэтая справа — выкананне закона. Як у старой (каляжурналісцкай, дарэчы) показцы: «Чукча не чытач, чукча пісьменнік». Дэпутаты законы прымаюць, а над механізмамі іх выканання хай думаюць іншыя. «Як будуць ідэнтыфікаваць каментатараў, вызначаць пастановай ураду», — паведаміла «Радыё Свабода».

Ва ўрадзе пачалося шурупанне мазгамі. Міністэрства інфармацыі, напрыклад, прапанавала ідэнтыфікаваць карыстальніка з дапамогай sms. Але, па-першае, ёсць людзі, якія ніякімі sms не карыстаюцца. Па-другое, у нас, напрыклад, багата каментатараў з-за мяжы — ЗША, Ізраіль... Колькі грошай павінна выдаткаваць рэдакцыя на такі сервіс? Можа, Мінінфарм, калі такі заможны, і распрацуе нам гэтую сістэму?

Альбо паступіла прапанова ідэнтыфікаваць каментатараў праз электронную пошту ці сацыяльныя сеткі. Ці ўяўляюць гэтыя «прапаноўшчыкі», колькі ў сецівe існуе фэйкавых і ананімных акаўнтаў? Да мяне ў сябры рэгулярна грукаюцца «Кастусь Каліноўскі» і «Элаіза Ажэшка». Няўжо ў Мінінфарме думаюць, што нехта працягнуў оптавалакно на той свет?

Пры гэтым я не выключаю, што ў Мінінфарме і ва ўрадзе ёсць пару-тройку чалавек, якія ведаюць, што і навошта робяць. Ад увядзення патрабавання ідэнтыфікацыі праз sms непасрэдную выгаду атрымаюць аператары мабільнай сувязі. З патрабаваннем ідэнтыфікацыі праз сацсеткі значна ўзрасце колькасць фэйкавых акаўнтаў. Кожны такі акаўнт — дэ-факта, павелічэнне колькасць паказаў рэкламы ў тых самых сацсетках — а менавіта з гэтага яны і жывуць. Варта толькі адзначыць, што спробы стварыць беларускую сацыяльную сетку (напрыклад, Vseti.by) скончыліся правалам. А значыць, грэбсці грошы рыдлёўкай будуць папулярныя, але замежныя Facebook, «ВКонтакте», «Одноклассники».

Колькі заплацілі «замежныя агенты» нашым распрацоўшчыкам паправак у закон аб СМІ? Хаця я б у такіх варунках працаваў не за фіксаваную аплату, а за працэнт з прыбытку.




Дый насамрэч «ідэнтыфікацыя каментатараў» — лухта і яшчэ адзін доказ, што ўлада (ці хто там задумваў гэтыя папраўкі) за прагрэсам не паспявае. Спроба ўзяць пад кантроль каментатараў састарэла, бо людзі, у асноўным, ужо мала каментуюць артыкулы менавіта на сайце СМІ. Ім зручней карыстацца афіцыйнымі старонкамі прэсы ў сацыяльных сетках.

Ці будуць спрэс замежныя сацыяльныя сеткі выконваць беларускі закон аб СМІ і палажэнні пра ідэнтыфікацыю карыстальнікаў? Так і бачу, як нехта ў Мінінфарме піша: «Дарагі Марк Цукерберг! На старонцы «Новага Часу» ў Facebook нехта пад нікам «Кастусь Каліноўскі» апублікаваў меркаванне, якое можа нанесці шкоду дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусь. Ці не маглі б вы пакапацца ў логах і сказаць: хто такі «Кастусь Каліноўскі»? Па нашых звестках, ён памёр у 1864 годзе...»

**Калі ваша дзяржава можа разваліцца ад аднаго меркавання, навошта вам такая дзяржава?**

І адказ ад Цукерберга: «Дэар фрэндс! Я не ведаю, што такое Беларусь і дзе яна знаходзіцца, але калі ваша дзяржава можа развaліцца ад аднаго меркавання, навошта вам такая дзяржава?»

У дзяржаўным падарунку журналістам пад прафесійныя святы ёсць яшчэ багата цікавага — напрыклад, пазасудовае блакаванне сайтаў. Зразумела, што, калі гэтыя папраўкі пісаліся, яшчэ не было расійскай спробы заблакаваць «Тэлеграм». Але дэпутаты, якія чохам прынялі гэтыя папраўкі, павінны былі ўлічыць замежны досвед, калі заблакавалі ўсё, апроч самога «Тэлеграму»...

Гэта ўсё да чаго? Зараз мы дайшлі да такой ступені прагрэсу, што абмежаваць свабоду выказванняў, свабоду слова і свабоду меркаванняў стала практычна не магчыма. Тыя, хто спрабуе гэта зрабіць, жывуць, падаецца, у каменным веку. Але шкада, што разбірацца і падладжвацца пад гэтыя каменны век даводзіцца нам — тым, каму захады і падладжванні сто гадоў непатрэбныя.

# ЕФЖ патрабуе спыніць пераслед журналістаў

**Напярэдадні Сусветнага дня свабоды прэсы Еўрапейская федэрацыя журналістаў (EFJ) апублікавала заяву салідарнасці з журналістамі ў Беларусі, якія церпяць пераслед.**

«На жаль, умовы для працы журналістаў у Беларусі нават і блізка немагчыма назваць свабоднымі. З 2015 года ўлады краіны распачалі кампанію рэпрэсій у дачыненні да журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі медыя», — гаворыцца ў заяве.

У выніку гэтай кампаніі ў 2017 годзе беларускіх журналістаў 69 разоў штрафавалі нібыта за незаконны выраб прадукцыі СМІ, хоць ад самага пачатку Беларуская асацыяцыя журналістаў лічыць такі пераслед незаконным.

У 2018 годзе хваля праследу калег у Беларусі працягнулася, і ўлады ўжо 32 разы асудзілі журналістаў-фрылансераў да вялікіх грашовых штрафаў.

Еўрапейская федэрацыя журналістаў, найбуйнейшая арганізацыя журналістаў у Еўропе, якая прадстаўляе больш за 320 тысяч журналістаў у 70-ці журналісцкіх арганізацыях у 44 краінах, яшчэ раз выказала салідарнасць з беларускімі калегамі.

«Мы заклікаем беларускія дзяржаўныя органы неадкладна спыніць беспрэцэдэнтную хвалю праследу незалежных журналістаў і даць нашым калегам юрыдычныя гарантыі для іх прафесійнай дзейнасці. Акрамя таго, мы звяртаемся да журналісцкіх саюзаў і арганізацый па ўсёй Еўропе з просьбай праявіць салідарнасць з нашым зваротам у падтрымку калегаў у Беларусі. І просім урады адпаведных краін уздымаць пытанне пра пераслед журналістаў у Беларусі падчас міжнародных сустрэч і двухбаковых перамоваў», — гаворыцца ў заяве ЕФЖ.

Нагадаем, 3 мая па ініцыятыве ААН адзначаецца Сусветны дзень свабоды прэсы. Тэма гэтага дня ў 2018 годзе — «Трымаць уладу пад кантролем: СМІ, правасуддзе, вяршэнства закона».

**Паводле baj.by**

# Дзеянні ўладаў як крэда героя трэш-серыяла

Сямён ПЕЧАНКО, «САЛІДАРНАСЦЬ»

**У галоўнага героя трэш-серыяла «Эш супраць злавесных мерцвякоў» Эшлі Уільямса было жыццёвае крэда: «Спачатку страляй, а потым думай».**




Мяркуючы па апошніх навінах, падобных поглядаў прытрымліваюцца і ўлады Беларусі. Возьмем хаця б заявы міністра працы Ірыны Касцевіч пра тое, за што яшчэ беларусы, якія трапілі ў лік дармаедаў, могуць заплаціць па поўнай.

Пакінем за дужкамі той факт, што дэкрэт аб дармаедах быў народжаны чыноўнікамі, якія жывуць у элітным раёне з катэджамі коштам у мільёны долараў, у самы разгар эканамічнага крызісу. Тут цікавы сам механізм прыняцця рашэнняў, якія закранаюць мільёны беларусаў.

Каментуючы перспектывы пашырэння пераліку паслуг, якія не занятым у эканоміцы працаздольным грамадзянам давядзецца аплачваць у поўным абʼёме, міністр адзначыла: «Трэба спачатку ўбачыць практыку. Самае галоўнае, каб гэтая сістэма працавала — не дзеля збору грошай праз поўнае пакрыццё выдаткаў. Самае галоўнае — актывізацыя на рынку працы з боку насельніцтва».

Іншымі словамі, спачатку страляем — задзейнічаем дэкрэт, — а ўжо потым глядзім, запрацуе ён ці не.

І гэта пры тым, што папярэдняя версія дэкрэта выклікала тысячы раззлаваных беларусаў на вуліцу і прымусіла ўлады ў пажарным парадку гасіць вулічныя пратэсты і замарожваць ініцыятыву, якая апынулася надзвычай непапулярнай.

Добра, калі б гэта быў разавы паход па граблях. Але мы ж памятаем словы кіраўніка дзяржавы пра АЭС, сказаныя зусім нядаўна: «Працуюць сотні навукоўцаў, тысячы спецыялістаў у сістэме Мінэнерга і Мінбудархітэктуры, а мне дагэтуль выразна ніхто не далажыў, як станцыя будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны».

Пайшоў ужо сёмы год будаўніцтва, у 2019-м плануецца ўвод у эксплуатацыю, а галоўны ініцыятар будаўніцтва да гэтага часу не ў курсе, што мы будзем рабіць з атамнай станцыяй.

Можна ўспомніць і мадэрнізацыю цэментнай галіны, і будаўніцтва аўтазавода без уліку магчымасцяў збыту, і многае іншае, каб зразумець, наколькі трывала ў нас укараніўся прынцып прыняцця найважнейшых рашэнняў «на авось».

**Пераклад НЧ**

# Абаронцы Курапатаў звернуцца ў КПЧ ААН

Марат ГАРАВЫ

**Вярхоўны суд Беларусі адмовіў актывістам грамадскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» у задавальненні чатырох наглядных скаргаў па судовых справах у абарону Нацыянальнага некропаля.**

Апошняй была не задаволеная наглядная скарга ў сувязі з тым, што 20 ліпеня 2015 года суддзя суда Фрунзенскага раёна горада Мінска Аляксандр Кузьміч не падтрымаў заяву грамадзян на неправамерныя дзеянні Мінскага райвыканкаму і ягонага старшыні Пятра Ярмаша, які не дазволіў заяўнікам правесці пікетаванні ў абарону Курапатаў, запланаваныя на 4 чэрвеня 2015 года ў Мінскім раёне.

Пазней судовая калегія па грамадзянскіх справах Мінгарсуда і ягоны старшыня Павел Каршуновіч пакінулі рашэнне суда Фрунзенскага раёна без зменаў, а касацыйную скаргу заяўнікаў без задавальнення.

Раней Вярхоўны суд не задаволіў наглядныя скаргі экспертаў па судовых пастановах наконт заяваў грамадзян на Генпракуратуру, Міністэрства культуры і начальніка ўпраўлення гэтага міністэрства па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Ігара Чарняўскага. Названыя скаргі тычыліся незаконнага і самавольнага ўзвядзення ў ахоўнай зоне Курапатаў рэстаранна-забаўляльнага комплексу з былой назвай «Бульбаш-хол» і ўнармавання гэтага беззаконня чыноўнікамі Мінкультуры.

Апроч таго, Вярхоўны суд падтрымаў пазіцыю суддзі суда Цэнтральнага раёна горада Мінска Івана Майсейчыка, які 6 студзеня 2016 года адмовіў заяўнікам ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы па скарзе на неправамерныя дзеянні (бяздзеянне) Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, якая адмовілася паведаміць выяўленыя супрацоўнікамі Генпракуратуры дадзеныя, у тым ліку імёны, імёны па бацьку і прозвішчы трох ахвяраў масавых палітычных рэпрэсій 1930-х гадоў, чые парэшткі былі ідэнтыфікаваныя па выніках дадатковага расследавання 1997–1999 гадоў пра трагедыю ў Курапатах у рамках крымінальнай справы, узбуджанай у 1988 годзе.

Паколькі Вярхоўны суд краіны не задаволіў усе наглядныя скаргі грамадскасці па судовых справах у абарону Курапатаў, эксперты будуць звяртацца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

# «Маці 328» галадаюць — і дамагаюцца

**У вёсцы Востраў на Міншчыне, у Калінкавічах і іншых гарадах з 27 красавіка галадаюць не менш за 14 актывістаў руху «Маці 328».**

Удзельнікі галадоўкі патрабуюць перагляду жорсткіх прысудаў ад 2013 года паводле артыкула 328 Крымінальнага кодэксу Беларусі «Незаконнае абарачэнне наркатычных сродкаў» (ад 5 да 25 гадоў пазбаўлення волі), а таксама зменаў у заканадаўства.

Апроч таго, яны патрабавалі сустрэчы з Лукашэнкам для размовы аб праблемах вязняў, асуджаных паводле гэтага артыкула. Жанчыны настойваюць на яго лібералізацыі і на ўтварэнні камісіі, якая пачне вывучаць былыя крымінальныя справы, заведзеныя паводле яго. Актывісткі выказалі патрабаванне, каб на сустрэчы прысутнічалі кіраўнікі Вярхоўнага суда, Генеральнай пракуратуры, МУС, Следчага камітэта, абедзвюх палатаў Нацыянальнага сходу, якія могуць рэальна паўплываць на змякчэнне пакарання паводле артыкула 328.

2 мая тых галадоўніц, якія праводзілі акцыю ў Калінкавічах, запрасілі на сустрэчу ў Адміністрацыю прэзідэнта. Сямёра галадоўніц руху «Маці 328» сустрэліся ў Мінску з кіраўніцай спраў Лукашэнкі Наталляй Качанавай. Праўда, імгенных вынікаў сустрэча не дала, а таму галадоўка працягваецца.

У той жа час старшыня камісіі ў пытаннях заканадаўства Палаты прадстаўнікоў Наталля Гуйвік заявіла «Радыё Свабода», што цяперашняя рэдакцыя артыкула 328 Крымінальнага кодэксу прыводзіць да напружанасці ў грамадстве і лічыць, што артыкул павінен быць зменены.

«Правапрымяняльная практыка, дзякуй Богу, толькі цяпер пачала выпраўляцца. Усё ж апошнім часам да гэтай праблемы пачалі падыходзіць дыферэнцавана. І сёння ўжо адрозніваюць сумеснае ўжыванне наркотыкаў і іх збыт. На мой погляд, гэта дзве розныя рэчы. А ў нас з 2014 года чамусьці да гэтых дзвюх падзей ставіліся аднолькава», — сказала Наталля Гуйвік.

Старшыня камісіі прызнае, што актывісткі руху «Маці 328», чые сыны, мужы ды ўнукі асуджаны на вялікія тэрміны паводле артыкула 328, «зрабілі вялікую працу»: «Яны звярнуліся да нас у камісію. Бо мы ж раней гэтага не ведалі, прысудаў не бачылі. Ліст у камісію падпісалі 1382 чалавекі. І мы спрабавалі сустрэцца з кожнай жанчынай. Дэпутаты пачалі праводзіць маніторынг, вывучалі кожны прысуд. Мы звярнуліся ў Генеральную пракуратуру. І нават па адным прысудзе быў перагляд у бок змякчэння».

Урад абяцаў вызначыць змены да артыкула 328 у сакавіку. Але дакумент у парламент яшчэ не паступаў. Згодна з планам-графікам заканадаўчай дзейнасці, праект зменаў урад павінен быў унесці ў сакавіку 2018 года.

За мінулы год у Палаце прадстаўнікоў змянілася профільная камісія, якая курыруе змены ў Крымінальны кодэкс. Ёй стала камісія нацыянальнай бяспекі. У гэтай камісіі таксама пацвердзілі, што адпаведнага дакумента з Саўміна ёй не паступала. Наталля Гуйвік кажа, што ў змене профільнай камісіі няма нічога асаблівага: «Камісію ў пытаннях заканадаўства крыху разгрузілі. Крымінальны кодэкс вярнулі ў кампетэнцыю камісіі нацыянальнай бяспекі, як калісьці і было. Але паколькі мы займаліся гэтай праблемай шчыльна, то не будзем і цяпер пакідаць яе па-за ўвагай. Мы сваіх прапаноў не здымаем. Яны ўнесеныя ў законапраект».

**Паводле «Радыё Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Загадкі пад шашлык

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Неяк раптоўна пасля доўгай позняй зімы настала амаль лета. Слупок тэрмометра на сонцы сягае +30, і не дзіва, што беларусы ў большасці сваёй у гэтыя працяглыя выходныя альбо тэрмінова саджалі бульбу, альбо з'ехалі на шашлыкі. Меншасць — працавала.**

Сярод забаўных навінаў гэтага кароткага працоўнага тыдня — чарговае невыкананне «па пяцьсот». На адной з нарадаў кіраўніцтва краіны выказала пажаданне ўбачыць заробак у 1000 рублёў у сакавіку. Паводле звестак Белстата, у сакавіку гэты паказчык хоць і вырас на 76,4 рубля, аднак да запаветнай тысячы рублёў не дацягнуў, спыніўшыся на адзнацы ў 926,8 рубля.

Мы ўжо казалі пра тое, што «сярэдні заробак па краіне» — усё роўна, што сярэдняя тэмпература па бальніцы: там усе здаровыя, калі ўлічыць тэмпературу дактароў і іншага персаналу. Але ў дадзеным выпадку паказчык «па пяцьсот» дастаткова важны, бо з 1 мая змяняецца парадак атрымання насельніцтвам банкаўскіх крэдытаў.

Калі коратка, то цяпер крэдытаатрымальніку трэба пераканаць банк не толькі ў сваёй плацежаздольнасці, але і даказаць, што пазыковая нагрузка не стане для яго непад'ёмнай. Пры наданні крэдытаў на фінансаванне нерухомасці і на спажывецкія патрэбы банкі павінны па-новаму ацэньваць крэдытаздольнасць заяўніка. Сярод іншых патрабаванняў яны павінны ўлічваць паказчык забяспечанасці крэдыту — суадносіны сумы крэдыту з коштам аб'екта нерухомасці або іншага забеспячэння, якія прымаюцца ў заклад. Паказчык забяспечанасці крэдыту не павінен перавышаць 90%.

Акрамя гэтага ў разлік бярэцца паказчык пазыковай нагрузкі, які павінен у пэўных прапорцыях суадносіцца з сярэднямесячным прыбыткам крэдытаатрымальніка. У адпаведнасці з новымі правіламі, узровень выплат па крэдытах не павінен быць вышэй за 40% сярэднямесячнага даходу.

Гэта зразумела: такім чынам банкам нададзена пэўная гарантыя вяртання сродкаў, выданых па крэдыце, што пазбаўляе іх ад «праблемных пазыкаў».

Але адпаведная інструкцыя Нацбанка, што ўвяла гэтыя новыя правілы, не ўтрымлівае нормаў, якія абмяжоўваюць наданне крэдытаў заяўніку, які мае пратэрмінаваную запазычанасць па раней дадзеных яму крэдытах. То бок, можна браць некалькі крэдытаў — і гэта, канешне, выклікае пытанні.

З іншага боку — а як жа без крэдытаў увогуле? Асабліва ў той час, калі на іх трымаецца ўся гаспадарка. У адным з папярэдніх нумароў мы ўжо пісалі, што ўрад планує стымуляваць завод «БелДжы» і продаж аўтамабіляў Geely праз выдачу льготных крэдытаў на пакупку гэтай машыны. Крэдытныя лініі ўжо запушчаныя, але крэдытаваць, высвятляецца, яшчэ няма чаго!

Справа ў тым, што, як пішуць СМІ, афіцыйная прыёмка ў эксплуатацыю завода «БелДжы» яшчэ толькі «павінна адбыцца не пазней сярэдзіны чэрвеня». Пра гэта гаворыцца ў пастанове ўрада ад 25 красавіка №322.

«Устанавіць, што прыёмка ў эксплуатацыю аб'екта «Будаўніцтва завода па вытворчасці легкавых аўтамабіляў у раёне аграгарадка Перасады Барысаўскага раёна» ажыццяўляецца прыёмачнай камісіяй <…> у парадку, устаноўленым заканадаўствам для аб'ектаў, скончаных узвядзеннем і падрыхтаваных да эксплуатацыі. Прыёмачнай камісіі завяршыць працу не пазней за 15 чэрвеня 2018 года», — гаворыцца ў дакуменце.

**Мы крыху кпілі з таго, што за першы квартал года «БелДжы» прадаў усяго 170 машынаў з 8590, рэалізаваных увогуле. Дарма кпілі. Для заводу, які дэ-юрэ яшчэ не існуе, і гэтыя продажы — неблагія**

То бок, юрыдычна ніякага заводу «БелДжы» ў нас яшчэ няма, ён не прыняты ў эксплуатацыю, хаця і адкрыўся з удзелам Лукашэнкі ў лістападзе мінулага года. Адкрытыя крэдытныя лініі, а з канвеера «БелДжы» сыходзіць толькі адна мадэль — Geely Atlas.

Цікава, калі ён афіцыйна не «прыняты ў эксплуатацыю», на якіх умовах там працуюць рабочыя? Хто падпісваў з імі працоўныя дамовы, ад імя каго, як працадаўцы, яны заключаныя? Як гэтае прадпрыемства сплачвае падаткі, закупляе тэхніку, камплектуючыя, абсталяванне? І якой пячаткай праштэмпеляваныя гэтыя дакументы?

Па-мойму, гэта вышэйшы пілатаж: цэлы завод (!), які карыстаецца дзяржаўнай падтрымкай (!), падаецца, выведзены ў «шэрую зону» эканомікі!

«Праектная магутнасць «БелДжы» — 60 тысяч аўтамабіляў на год, гэта значыць у месяц трэба навучыцца вырабляць і прадаваць 5 тысяч. Вытворчасць развіваецца, вырашана мноства арганізацыйных, кадравых пытанняў. У студзені-лютым выраблі 260 аўтамабіляў, у сакавіку — 500, у красавіку павінны вырабіць тысячу. Тэмпы растуць, і самае галоўнае, што складскія запасы памяншаюцца», — казаў віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка.

Мы крыху кпілі з таго, што за першы квартал года «БелДжы» прадаў усяго 170 машынаў з 8590, рэалізаваных увогуле. Як высвятляецца — дарма кпілі. Для заводу, які дэ-юрэ яшчэ не існуе, і гэтыя продажы — неблагія.

Але ў шмат каго ёсць іншыя праблемы, і ёсць на што браць крэдыты і без аўтамабіляў. З 2 мая ў Беларусі пачалася рэгістрацыя для ўдзелу ў асноўным этапе цэнтралізаванага тэставання. Яна будзе доўжыцца па 1 чэрвеня. «Для рэгістрацыі абітурыентам неабходна прад'явіць дакумент, які сведчыць асобу, падаць заяву на адной з дзяржаўных моў Беларусі, аплаціць прыём і афармленне дакументаў для ўдзелу ў ЦТ у памеры 0,1 базавай велічыні (базавая велічыня складае 24,5 рубля) за адзін навучальны прадмет. У выпадку немагчымасці прыбыцця ў пункт рэгістрацыі з паважных прычынаў дакументы могуць падаць законныя прадстаўнікі непаўналетніх абітурыентаў або прадстаўнікі, якія дзейнічаюць на падставе даверанасці», — распавёў агенцтву БЕЛТА дырэктар Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў Юрый Міксюк.

Зарэгістравацца для праходжання ЦТ дазваляецца не больш чым па чатырох вучэбных прадметах. ЦТ пачнецца 12 чэрвеня з выпрабаванняў па беларускай мове, 14 чэрвеня пройдуць тэсты па рускай мове, 16 чэрвеня — па грамадазнаўству, 18 чэрвеня — па матэматыцы, 20 чэрвеня — па біялогіі, 22 чэрвеня — па замежных мовах (англійская, нямецкая, французская, іспанская, кітайская), 24 чэрвеня — па хіміі, 26 чэрвеня — па фізіцы, 28 чэрвеня — па гісторыі Беларусі, 30 чэрвеня — па геаграфіі. Завершыцца ЦТ 2 ліпеня экзаменам па сусветнай гісторыі (найноўшы час). Час пачатку ЦТ, у тым ліку ў рэзервовыя дні — 11.00.

Зарэгістравацца для праходжання ЦТ у рэзервовыя дні можна будзе з 30 чэрвеня па 3 ліпеня.

Усё гэта, канешне, вельмі добра. Але засмучае адно: аплата, хай і 0,1 базавай велічыні, за рэгістрацыю на ЦТ. А як жа нашая хвалёная «дзяржава для народа» і «бясплатная адукацыя»? Нехта скажа: гэта не тычыцца адукацыі вышэйшай. А я адкажу, што і абітурыенты — яшчэ не студэнты.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Кшыштаф Пасвята

**Ксёндз, які служыў у мястэчку Гатава і будаваў там новы касцёл, вымушаны быў пакінуць Беларусь. Чым у чарговы раз паказаў супярэчнасці беларускага заканадаўства.**

Прычынай высылкі ксяндза, грамадзяніна Польшчы, стала парушэнне правілаў дарожнага руху: за мінулы год святар тройчы парушаў хуткасны рэжым на дарозе.

Беларускі бок спасылаецца на пастанову аб знаходжанні замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ад 2008 года. Згодна з дакументам, два і больш адміністрацыйныя парушэнні для святара могуць быць падставай для адмовы ў знаходжанні на тэрыторыі краіны.

У той жа час закон аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, прыняты ў Беларусі ў 2010 годзе, кажа, што іншаземец можа не атрымаць візу, калі мае пяць і больш адміністрацыйных правапарушэнняў. «Атрымліваецца, замежнікаў дзеляць на два гатункі: просты чалавек і святар. Гэта сапраўдная дыскрымінацыя святароў», — лічыць прадстаяцель Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.

Намаганнямі ксяндза Кшыштафа Пасвяты ў Гатава быў створаны пастырскі цэнтр для дзяцей і моладзі.



## Дзмітрый Галко

**Наш калега і вядомы блогер пераведзены ў Мінскі следчы ізалятар, і яму прад'яўленае абвінавачванне.**

Пачынаючы з 27 красавіка Дзмітрыя Галко ўтрымліваюць у СІЗА на вуліцы Валадарскага ў Мінску. Бацька журналіста Мікалай Галко пацвердзіў інфармацыю аб прад'яўленні яму абвінавачвання па артыкуле 364 Крымінальнага кодэкса «Гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў».

Нагадаем, Галко затрымалі 22 красавіка на беларуска-ўкраінскай мяжы, калі ён паспрабаваў вярнуцца ў Беларусь. Незалежны журналіст быў абвешчаны ў вышук у якасці падазраванага паводле артыкула 364 КК. 30 красавіка прыйшоў першы ліст Галко з Валадарскага, пра гэта напісала ў Facebook яго маці Таццяна Галко.

Падставай для пераследу журналіста стаў інцыдэнт, які адбыўся падчас адзначэння дня нараджэння яго сына. У кватэру, дзе адбывалася святкаванне, нехта выклікаў міліцыю. Абвінавачванне сцвярджае, што Галко аказваў супраціў участковаму, і пры гэтым пабіў яму мабільны тэлефон. Дзіўна ў гэтай сітуацыі тое, што на месцы здарэння адразу аказалася група захопу, якая ўварвалася ў кватэру і затрымала тады Галко. За гэты інцыдэнт ён ужо адседзеў адміністрацыйны арышт.



## Уле Эйнар Б'ёрндален

**Муж Дар'і Домрачавай завяршыў кар'еру, але не пазбавіўся чутак і плётак. Усе жадаюць бачыць яго ў якасці трэнера.**

Нарвежскія СМІ распаўсюдзілі інфармацыю, што Б'ёрндален можа ўзначаліць мужчынскую зборную Расіі па біятлоне.

Сам знакаміты біятланіст заявіў, што пачуў пра гэта толькі ад журналістаў. «Не, я не вяду ніякіх перамоваў. Я ўвогуле ўпершыню пра гэта чую», — кажа з гэтай нагоды сам Б'ёрндален. Ён дадае, што задумваўся пра працу ў якасці трэнера, але лічыць, што для гэтага яшчэ занадта рана.

Між тым, двухразовы алімпійскі чэмпіён Сяргей Чэпікаў заявіў «Спорт-Экспрэс», што ў Б'ёрндалена больш шанцаў стаць трэнерам беларускай зборнай, чым расійскай.

«Мне здаецца, што ў Б'ёрндалена больш шанцаў стаць трэнерам беларускай зборнай. У іх зараз ёсць, можна сказаць, пэўны рэзерв у выніках. І якраз, на мой погляд, зборнай Беларусі не хапае моцнага спецыяліста. Тым больш, Уле Эйнар ужо дапамагаў Дар'і Домрачавай на Алімпіядзе. Мне здаецца, ён даўно ўжо стаў трэнерам. Спачатку самога сябе, потым Дар'і. У яго велізарны досвед, больш за 20 зімовых сезонаў. За гэты час і на сваіх памылках можна вельмі шмат чаму навучыцца. Гэты вопыт, на мой погляд, неацэнны. І яго трэба неяк трансфармаваць, перадаць маладому пакаленню. Лічу, многія зборныя хацелі, каб трэнерам у іх быў Б'ёрндален», — адзначае Чэпікаў.




**Як у нашых умовах рэальна будзе выглядаць «арэнда працаўнікоў» — залежыць ад канкрэтнай сітуацыі. Перш за ўсё — ад стану эканомікі. І яшчэ — ад здольнасці саміх работнікаў і незалежных прафсаюзаў абараняць свае правы**

# Як працоўнага ў арэнду здаць

## Папраўкі ў Працоўны кодэкс могуць вярнуць краіну, фактычна, да прыгоннага права

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Бліжэйшым часам дэпутаты Нацыянальнага сходу Беларусі могуць прыняць папраўкі да закона, які рэгулюе адносіны паміж працаўнікамі і наймальнікам. У Працоўны кодэкс, у прыватнасці, дададуць правы працадаўцы перадаць сваіх рабочых іншаму наймальніку, для фрылансераў увядуць новыя правілы, а ў адпачынку можна будзе працаваць па сумяшчальніцтву поўны працоўны дзень.**

### Гнуткі закон і рабочая шыя

Чым жа выклікана неабходнасць гэтых зменаў? Прыхільнікі рэфармавання кодэксу кажуць пра тое, што жыццё не стаіць на месцы. Сапраўды, праца «на ўдалёнцы» становіцца ўсё больш папулярнай, а сучасная вытворчасць мае патрэбу ў больш гнуткіх падыходах. Але толькі ў чыіх інтарэсах будзе праводзіцца чарговае рэфармаванне?

Самае буйное новаўвядзенне — гэта права наймальніка «часова» перадаваць свайго работніка другому працадаўцу. Навошта? Па ідэі, справа можа ісці так — прадпрымальніку «Ікс» для выканання тэрміновай працы спатрэбіліся людзі. Але замова невялікая, абмежаваная па часе, і гэтак далей. Таму наймаць работнікаў у штат яму няма сэнсу. Ён звяртаецца да працадаўцы «Ігрэк», і той часова перадае яму сваіх працоўных.

Але для чаго ўвогуле «Іксу» браць пралетарыяў у працадаўцы «Ігрэка»? Дзеючае заканадаўства і так прадугледжвае розныя варыянты. Па-першае, калі нестае рабочых рук, людзей можа наняць і па дамове падраду. Тых жа «фрылансераў» — будаўнікоў, кіроўцаў ці прадаўцоў. Па-другое, «Ікс» можа выканаць працы, атрымаўшы спецыялістаў ад арганізацыі «Ігрэк» або «Зэт» на ўмовах субпадраду, што заўсёды шырока практыкавалася на будоўлі, дзе амаль усе працы з'яўляюцца падраднымі і сезоннымі. Дык навошта ж агарод гарадзіць?

### Свае работнікі на чужым гародзе

А вось навошта. Па-першае, рабочыя на падрадзе — рэч для працадаўцы, хоць і эканамічна выгадная, але не зусім зручная ў эксплуатацыі. Напрыклад, адной з прычын з'яўлення снежных завалаў у Гомелі гэтай зімой быў недахоп кіроўцаў у адной з гарадскіх камунальных арганізацый. Штатных кіроўцаў часткова «аптымізавалі» — іх вырашылі замяніць тымі, хто працуе па дамове падраду. Але «падрадчык» — чалавек часовы, нічым арганізацыі не абавязаны. І таму выходзіць на ўборку снегу па выходных і ўначы многія з іх справядліва адмовіліся.

А чым праймеш такога «адмоўніка»? Заклікаць да «працоўнай свядомасці» ў наш час чыста рынкавых адносінаў — смешна. А што да звальнення, дык яно і так чакае сезоннага работніка ў бліжэйшай перспектыве. Таму варыянт атрымаць працоўную сілу часова і без асаблівых абавязацельстваў перад ёй — але пры гэтым «дысцыплінаваную» пастаяннымі кантрактамі, — аптымальны для наймальніка.

Па-другое: вядома, новыя папраўкі закліканыя ўлічваць і інтарэсы вытворчасці, і захавання працоўных месцаў. Пра што і кажуць распрацоўшчыкі гэтага праекта. Але перадаваць работнікаў на іншае прадпрыемства па вытворчай неабходнасці дазволена і цяпер. Таму змены ў Працоўны кодэкс прымаюцца, падобна, перш за ўсё ў інтарэсах і таго наймальніка, які, напрыклад, застаўся без заказаў. Трымаць сваіх работнікаў на «дзве трацінні» або звальняць іх з выплатай дапамогі яму нявыгадна. А так, аддаючы сваіх людзей «у часовае карыстанне» іншаму працадаўцу, ён забівае адразу двух зайцаў: скідае з сябе цяжар сацыяльнай адказнасці, і яшчэ ад калегі-бізнесоўца грошы за работнікаў можа атрымаць.

І тут мы падыходзім да трэцяга пункта: магчымасці для найбольш прадпрымальных суб'ектаў другаснага «перапрадажу» працоўнай сілы. Падобна на тое, што пасля прыняцця паправак аддаваць свой персанал іншаму ўладальніку можна будзе і без усялякай «вытворчай неабходнасці». Але затое — з немалой выгадай для сябе.

### Як чалавека ў арэнду здаць

Менавіта так гэта адбываецца ў многіх краінах, у тым ліку ў нашых суседзяў. У цэлым такая з'ява ў міжнароднай практыцы называецца «флексібілізацыяй рынку працы». Па сутнасці, прапанаванае «ноу-хау» ў Працоўны кодэкс Беларусі з'яўляецца легалізацыяй славутага «аўтсорсінгу». Супраць гэтага інструмента дэрэгуляцыі працоўных адносін прафсаюзы вядуць барацьбу ва ўсім свеце.

Да сёння ў патрыярхальнай Беларусі гэтыя тэхналогіі маніпуляцый работнікамі яшчэ не былі развітыя. Але іх цяперашняя легалізацыя можа адкрыць сапраўдны скрыню Пандоры. Напрыклад, так званы «аўтстафінг», пры якім работнікі выконваюць свае звычайныя абавязкі, але перадаюцца ў штат кадравага агенцтва. Варыянты для ўладальніка бізнесу, які «сплавіў» свой персанал, тут разнастайныя — ад сыходу ад падаткаў да атрымання статусу «малога бізнесу».

Прыкладна па такіх схемах усё гэта працуе ў суседняй Расіі, дзе ў 2001 годзе да 40 працэнтаў людзей, якія звярнуліся ў кадравыя агенцтвы, здаваліся ў арэнду. Так, усё правільна — менавіта ў арэнду! — толькі завецца гэта «лізінгам персаналу», або «пазыковай працай». І ў Беларусі ад такіх паправак у заканадаўства могуць сур'ёзна выйграць рэкрутынгавыя кампаніі. У Расіі «аддадзеныя ў арэнду» спецыялісты толькі афіцыйна пералічваюць да 10 працэнтаў свайго заробку такім кадравым агенцтвам.

Ва Усеўкраінскім незалежным прафсаюзе «Захіст працы» паведамілі, што ва ўкраінскі Працоўны кодэкс таксама падрыхтаваныя аналагічныя папраўкі пра лізінг работнікаў.

Праўда, у папраўках да Працоўнага кодэкса Беларусі сказана, што такі перавод з'яўляецца для работніка справай добраахвотнай. Але Алесь Яўсеенка, праваабаронца «Беларускага Хельсінскага камітэта», кажа: «Пры кантрактнай сістэме рэальная добраахвотнасць не прадугледжаная ў прынцыпе. Згода работніка, хоць вусная, хоць пісьмовая, пад пагрозай непадаўжэння або скасавання кантракту, будзе чыстай фікцыяй. На жаль, працоўнае заканадаўства ў Беларусі ўсё далей адыходзіць ад правоў чалавека і правоў працоўных. Затое паўнамоцтвы працадаўцы няўхільна пашыраюцца».

> **Пры кантрактнай сістэме рэальная добраахвотнасць не прадугледжаная ў прынцыпе. Згода работніка пад пагрозай непадаўжэння або скасавання кантракту будзе чыстай фікцыяй**

Дарэчы, на гэтую сесію Палаты прадстаўнікоў таксама выносіцца ўключэнне дэкрэтаў №29 і №5, якія ўводзяць кантрактную сістэму ў Беларусі ўжо ў Працоўны кодэкс.

Сёння праца наёмных работнікаў і без таго з'яўляецца своеасаблівым таварам на рынку працоўнай сілы. З адным толькі нюансам: пакуль не заключаны працоўны кантракт, работнік выступае прадаўцом уласных рук, мазгоў і ўменняў. І ў той ці іншай меры, але ён у стане абіраць прыдатныя для сябе ўмовы працы і яе аплату. У выпадку ж, калі наймальнік атрымае фактычнае права аддаваць працоўнага ў арэнду, такая магчымасць будзе істотна абмежаваная.

Яшчэ такая практыка перадачы работнікаў можа паслужыць мэтам даўно прапанаванай ліквідацыі «монагарадоў» і іншага. Гэта значыць, працоўных з дэпрэсіўных раёнаў, забітых крызісам, можна будзе адпраўляць у іншыя рэгіёны — пры гэтым не выплачваючы ім дапамогі з нагоды звальнення і іншае. Ці — не прызнаючы людзей беспрацоўнымі. Бо прапанова працы, няхай за сотні кіламетраў ад дома, была зроблена!

Тэарэтычна, таксама можна будзе эканоміць і на сутачных. Напрыклад, не афармляючы тым жа рабочым-будаўнікам або наладчыкам камандзіроўку, а проста часова пераводзячы іх у іншую арганізацыю.

### Навіны і плюшкі

Як у нашых умовах рэальна будзе выглядаць прымяненне «арэнды працоўных» — залежыць ад канкрэтнай сітуацыі. Перш за ўсё — ад стану эканомікі і дынамікі крызісных з'яў у Беларусі. І яшчэ — ад здольнасці саміх работнікаў і незалежных прафсаюзаў абараняць свае правы. Пры аптымістычным развіцці сцэнару, перадача персаналу ад аднаго гаспадара да іншага можа быць эпізадычнай і кропкавай. Пры песімістычным — значная частка наёмных работнікаў можа пертварыцца практычна ў «гастарбайтэраў міжволі».

Дзеля справядлівасці, трэба адзначыць, што тэрмін перадачы работнікаў іншаму наймальніку ўсё ж будзе абмежаваны шасцю месяцамі ў каляндарным годзе. Дзеля аб'ектыўнасці, адзначым таксама, што ў новай рэдакцыі Працоўнага кодэкса прадугледжаны і некаторыя «плюшкі»: магчымае павелічэнне аплатнага адпачынку для завочнікаў старэйшых курсаў, пісьмовую згоду работніка на працу ў выходны, і гэтак далей. Цяпер таксама нельга будзе неабгрунтавана адмовіць у заключэнні працоўнай дамовы не толькі адзінокай маці, але і самотнаму бацьку.

Але затое атрымаць кампенсацыю грашыма за нявыкарыстаную частку адпачынку зараз стане магчымым толькі пры выходзе ў адпачынак не менш чым на 14 дзён у годзе. Гэтак жа, калі раней службы занятасці былі абавязаныя ўладкоўваць на працу жонак тых, хто пайшоў служыць у войска, на працягу двух месяцаў, то зараз тэрмін іх працаўладкавання не пазначаны. Тэарэтычна, можна вызначыць толькі яго верхнюю мяжу — мяжу тэрміновай службы ў ВС РБ у мірны час, якая складае 1,5 года.

Афіцыйныя прафсаюзы гэтыя папраўкі не толькі не крытыкуюць, але і лічацца аднымі з іх распрацоўнікаў.

Такім чынам, новыя папраўкі ў стары Працоўны кодэкс асаблівага аптымізму пакуль не выклікаюць. І не могуць выклікаць — бо ініцыяваныя і распрацаваныя яны дзяржавай, якая прадстаўляе ў нас інтарэсы наймальнікаў усіх формаў уласнасці. Без усялякага ўліку меркаванняў і інтарэсаў наёмных работнікаў — гэта значыць, нас з вамі.



Мікалай ДЗЯДОК

**Напачатку майго турэмнага тэрміну ў Магілёўскай калоніі №15 знаёмая дзяўчына напісала мне ліст, у якім спытала, ці ёсць у мяне доступ да інтэрнэту. Прайшло ўжо столькі гадоў, а я дагэтуль усміхаюся, калі ўзгадваю гэта наіўнае пытанне.**



# Вольнае слова ў няволі

У афіцыйных дакументах і законах змяшчэнне ў турму называецца «пазбаўленнем волі». Але дэ-факта гэтае пакаранне пазбаўляе чалавека не толькі волі — у сэнсе свабоды перасоўвання, — але і вялізнай колькасці самых базавых правоў. У тым ліку вязню «папраўчай» сістэмы Беларусі даводзіцца мірыцца з катастрафічным абмежаваннем права на інфармацыю, што ў наш інфармацыйны век з'яўляецца нашмат больш цяжкім пакараннем, чым можа падацца на першы погляд.

Зона ці турма — месца, дзе час, здаецца, спыніўся. Кожны дзень з табой адбываецца адно і тое ж. На «установленный распорядок дня» не ўплываюць ані эканамічны крызіс у Беларусі, ані выбары ў ЗША, ані вайна ва Украіне, ані тэракты ў Нарвегіі. Адсутнасць «ежы для розуму» і інфармацыйны вакуум прымушаюць адчуваць сябе ізаляваным, пазбаўляюць звычайнай глебы для роздуму, дазваляюць чорным думкам і апатыі ўлезці ў душу.

Сказаць, што абсалютна ўсе зэкі прагнуць вольнага слова ў турме, было б няпраўдай. Бо калі людзям не было цікава на волі ведаць больш, чым паказваюць па тэлебачанні, то наўрад ці гэта ім спатрэбіцца ў турме. Але для мяне, і не толькі для мяне аднаго, наладжванне бесперабойных крыніц большменш адэкватнай інфармацыі сталася за кратамі адной з першачарговых мэтаў.

Афіцыйна прапанаванымі адміністрацыяй крыніцамі інфармацыі за кратамі з'яўляюцца радыё і тэлевізар. У турме («крытай»), гэтаксама як і ў СІЗА, перадаваць (зэкі кажуць «зацягваць» — трапнае слова, бо зрабіць гэта нашмат цяжэй, чым проста перадаць) тэлевізар могуць родныя зняволеных, і звычайна ён ёсць у большасці камер. Дарэчы, трэба заўважыць, што глядзяць зэкі амаль выключна расійскія каналы.

Радыёкропка — бюджэтны варыянт для тых, у каго небагатыя родныя, альбо для тых, хто сядзіць у адзіночнай камеры. Звычайна гэта ўманціраваны ў сцяну над дзвярыма правадны прыёмнік, які перадае амаль выключна «Першы нацыянальны». У некаторых ШІЗА\ПКТ гуманныя ахоўнікі ўключаюць зэкам нешта больш сучаснае: «Новое Радио», «Радио Рокс» «Русское радио». Шалёнай папулярнасцю ў зэкаў карыстаецца «Радио Могилёв», асабліва яго штовячэрняя перадача «Дискo-клёш» з хітамі 1980–1990-х гадоў. Мабыць, гэта звязана з тым, што ў Магілёве і вобласці знаходзяцца ажно 8 папраўчых установаў, у якіх зэкі адбываюць пакаранне, — каля трацiны ад усіх наяўных у Беларусі. Таму не дзіва, што ў гэтай перадачы нярэдка можна пачуць прывітанні арыштантам ад родных.

Ва ўсіх папраўчых установах дазволена выпісваць газеты. Аднак і тут адміністрацыя чыніць перашкоды: калі раней газеты за цябе маглі выпісаць родныя, а потым проста даслаць табе па пошце квіткі, якія ты аддаваў мясцоваму «газетчыку» (звычайна гэта бібліятэкар-зэк ці начальнік атрада), і пасля гэтага рабіўся шчаслівым уладальнікам падпіскі, то зараз у большасці папраўчых установаў ад зэкаў патрабуюць спачатку пісаць заяву з пералікам тых выданняў, якія яны хочуць атрымаць, і выпісваць іх за кошт грошай на ўласным рахунку. Усё гэта стварае дадатковую бюракратыю і складанасці на шляху атрымання прэсы.

Зрэшты, тут ужо адміністрацыя старaецца празмерна: пераважная большасць зэкаў з цяжкасцю можа забяспечыць сябе гарбатай і цыгарэтамі, і пра газеты ды часопісы можа толькі марыць. Бо заробкаў у лагеры, а тым больш у «крытай», няма ніякіх — кожны арыштант, фактычна, у матэрыяльным плане «вісіць» на шыі сваіх родных.

Я ў гэтым плане быў прывілеяваным. Родныя бесперапынна выпісвалі мне амаль усю апазіцыйную прэсу. Пасля прачытання яна вокамгненна разыходзілася па атрадах (калі я сядзеў у лагеры) ці па камерах (калі быў у турме). Некаторыя потым прыходзілі да мяне абмяркоўваць прачытанае, часцей за ўсе заканчваючы рытарычным пытаннем: «Ну так что, скоро усатого скинут?» Часам па-змоўніцку ўхмыляліся, тыкаючы пальцам у нататку пра мяне самога: «Ну ты знаменитость!»

Такім чынам, самі арыштанты не маглі ці не вельмі хацелі выпісваць апазіцыйную прэсу. Але калі яна трапляла ў поле зроку — многія не адмаўляліся пачытаць. Адміністрацыя глядзела на гэта насцярожана. З аднаго боку, гэта ж не забаронена. З іншага — хто яго ведае, што яны там вычытаюць? Установа ўсё ж такі рэжымная і павінна вытрымліваць ідэалагічную лінію.

Неаднаразова даводзілася чуць, што ў ПК-9 (Горкі) начальнікі атрадаў складалі асобныя спісы тых, хто выпісвае апазіцыйную прэсу. У ПК-2 Бабруйска асуджанаму па «справе бабруйскіх анархістаў» Арцёму Пракапенку неаднаразова адмаўляліся выдаваць «Народную Волю». Ну а ў мяне ў ПК-15 здарыўся цікавы выпадак: нейкі невядомы мужчына напісаў ліст і запытаўся: ці ёсць вакол мяне жадаючыя падпісацца на «Нашу ніву»? Я запытаўся ў пакоі і знайшоў трох такіх арыштантаў (а што? — халява!). Праз месяц у секцыю прыносяць адразу чатыры «Нашы нівы» — на секцыю з 20 чалавек гэта відавочна зашмат. Аб гэтым хутка дазнаўся атрадны аператыўнік і потым па аднаму «дзёргаў» на размову кожнага з падпісчыкаў. Акрамя мяне, вядома.

**Сказаць, што ўсе зэкі прагнуць вольнага слова ў турме, было б няпраўдай. Калі людзям не было цікава на волі ведаць больш, чым паказваюць па тэлебачанні, то наўрад ці гэта ім спатрэбіцца ў турме. Але не толькі для мяне наладжванне крыніц адэкватнай інфармацыі сталася за кратамі адной з першачарговых мэтаў**

У справе абмежавання інфармацыі арыштантам закон, вядома, на баку адміністрацыі. Некалькі разоў да мяне даходзіў «Новы Час» у запакаваных капэртах. А пасля іх проста перасталі прапускаць.

У век хуткаснага інтэрнэту і сацсетак, калі мы страшэнна перагружаныя інфармацыяй і не ведаем, куды падзецца ад гэтага няспыннага патоку, цяжка сабе нават уявіць, што ёсць нехта, каму інфармацыі катастрафічна не хапае. У той момант, калі вы чытаеце гэтыя радкі, нехта на сваіх нарах старана спрабуе разглядзець дробныя літары ў газеце двухмесячнай даўніны, нехта выпрошвае ў суседа зацёрты да дзірак «Men's Health» з пошлымі жартамі і паўаголенымі дзяўчатамі, а хтосьці з тамтэйшых жыхароў за ўсё жыццё яшчэ ні разу не трымаў у руках смартфона.

Тая сістэма, што накіравала іх у гэтыя «інфармацыйныя пустэчы», не робіць і не будзе рабіць нічога, каб напоўніць іх жыццё карыснымі ведамі. А навошта? Начальнікі ў плямістых гарнітурах добра засвоілі: хто менш чытае, тым прасцей кіраваць.

# Паўторым праз год? Пяць пытанняў

Таццяна ЯВОРСКАЯ

**Свята 25 сакавіка ля Опернага атрымалася. Аднак падстаў прызнаваць яго рэальным крокам да дыялогу грамадства з уладамі няма. Таццяна Яворская сфармулявала пяць пытанняў да магчымых арганізатараў святкавання 101-га Дня Волі.**


Фота Арцёма Лявы


Фота Алены Ляшкевіч

25 сакавіка мая стужка стракацела разнастайнымі выявамі сяброў з усмешлівымі тварамі ля Опернага і фотаздымкамі затрыманых на плошчы Якуба Коласа ў Мінску. Пазней кантрасту дадалі і водгукі — ад натхнення добрым святам да перажыванняў тых, да каго незаконна ўжылі гвалт за межамі выдзеленай для святкавання пляцоўкі. Але нягледзячы на такі роскід уражанняў, меркаванне большасці — свята атрымалася.

Пасля яго прайшло больш за месяц. За гэты час пачалася пасяўная, Макей распавёў пра «працягнутую апазіцыі руку», Ярмошына намякнула на магчымы рэферэндум, Лукашэнка расказаў пра інфармацыйныя войны, а Павел Белавус — пра канцэпцыю святкавання 101-й гадавіны абвяшчэння БНР. Павел прапануе да канцэрта дадаць прэзентацыю беларускага мастацтва, бізнэс-форум, пашырыць фудкорт і перайменаваць усё гэта ў Дзень Беларусі. І адзначае, што ўсё гэта не замінае жадаючым мітынгаваць. Увогуле, усё кажа пра тое, што пасля #БНР100 выбар паміж забароненымі мерапрыемствамі і дазволеным святкаваннем — гэта нашы новыя рэаліі.

Разам са сваімі прапановамі Павел анансаваў пасяджэнне аргкамітэта, на якім будзе абмяркоўвацца святкаванне #БНР101. Свята ля Опернага шмат у чым фінансавалі самі людзі — і калі арганізатарам былі патрэбныя не толькі грошы, але і саўдзельнікі падзеі, залучаныя прыхільнікі на будучыню, то будзе правільным захаваць публічнасць і даць грамадству магчымасць бачыць усе працэсы знутры і рабіць свае высновы.

На ўсялякі выпадак я адразу папрашу відэатрансляцыю будучых пасяджэнняў аргкамітэта #БНР101 з магчымасцю задаваць пытанні. Свае пытанні я агучваю загадзя (каб у аргкамітэта быў час падрыхтаваць адказы), бо ў мяне ёсць прадчуванне, што арганізатары будуць больш абмяркоўваць тэхнічныя дэталі, а не прынцыповыя пытанні. А такіх у мяне пяць.

### Пытанне 1

У перыяд прыняцця рашэння «шэсце ці канцэрт» адным з аргументаў арганізатараў «Свята незалежнасці» было: «ад шэсця нічога не зменіцца». Адзін з суарганізатараў свята, намеснік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч нават распавёў дэпутатам Еўрапарламента, што канцэрт каля Опернага — беспрэцэдэнтны выпадак і крок да дыялогу з уладамі аб правах чалавека.

Я падтрымліваю канцэпцыю свята, але хачу атрымаць выразны адказ ад арганізатараў на пытанне: вы ацэньваеце свята ля Опернага як масавае мерапрыемства апазіцыі ці гэта этап / крок / кропка незвароту ў бок дэмакратызацыі беларускага грамадства?

Калі першае — можна ацэньваць поспех па колькасці тых, хто прыйшоў, а недахопам лічыць маленькі фудкорт. Калі другое — дык раскажыце, калі ласка, што змянілася ў краіне пасля свята і на якім узроўні знаходзіцца дыялог аб правах чалавека паміж уладамі і апазіцыяй?

### Пытанне 2

Нягледзячы на заявы Янукевіча пра адвольнае палітычнае значэнне дазволенага #БНР100, многія арганізатары настойліва падкрэсліваюць, што палітыцы няма месца на святе. Напрыклад, Павел Белавус абгрунтоўваў «апалітычнасць» «Свята незалежнасці» пагрозай «чорных спісаў» для музыкаў. А Эдуард Пальчыс прапанаваў займацца палітыкай астатнія 364 дні на год.

Такім чынам: калі дазваляюць толькі пэўным людзям і толькі пэўны фармат, па дамоўленасці з выканкамам уводзяць цэнзуру на ўсе банеры па-за тэматыкай БНР (пра гэта заяўляў і сам Павел Белавус у Facebook, а на практыцы прачула актывістка ініцыятывы «Маці–328», якой загадалі прыбраць плакат «Вярніце нашых дзяцей!») — то ці з'яўляюцца арганізатары свята ўдзельнікамі (я не сцвярджаю, што прыхільнікамі) палітыкі ўладаў ці не?

Дазволю сабе аналогію. Скажам, у ЗША часоў палітыкі сегрэгацыі былі месцы для белых і чорных; калі вы садзіліся на месцы для белых, то такім чынам падтрымлівалі палітыку сегрэгацыі. Або іншы прыклад: на акупаваных нацыстамі тэрыторыях уводзіліся забароны на продаж тавараў габрэям; і калі вы не прадавалі чагосьці габрэям, то такім чынам падтрымлівалі палітыку рэйхсканцлера нямецкага народа. Зразумела, можна пры гэтым сябраваць з суседскімі габрэямі і цемнаскурымі, лічыць гэта несправядлівым, матывы і наступствы розныя — але калі вы не займаецеся палітыкай, то чым?

Прадбачу сустрэчнае пытанне: «Дык што, нічога не рабіць?». Не, рабіць трэба. Не трэба хітраваць. Забаранілі не толькі шэсце Статкевіча–

# Янукевіч: «Некалі Лукашэнка сыдзе — і ў

Алесь КІРКЕВІЧ

**Выглядае, што сённяшняе кіраўніцтва БНФ ужо не хоча асацыявацца толькі з вулічным пратэстам, аўтазакамі ды затрыманнямі. Ці так гэта? Каб разабрацца ў сітуацыі, мы вырашылі пагутарыць з намеснікам старшыні БНФ Аляксеем Янукевічам.**

***— Ці стаў сёлетні Дзень Волі, які фактычна праходзіў у двух фарматах — пратэстным і святочным — пэўнай вяхой або пазнакай водападзелу ў беларускіх дэмакратычных колах?***

— Фактычна, падзел апазіцыі на тры асноўныя сегменты існуе ўжо даўно. Першы — гэта нацыянальна-арыентаваная частка, крытэрам поспеху ў якой з'яўляюцца ўласныя інтарэсы беларусаў, абарона незалежнасці ды ўмацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці. Другі сегмент — касмапалітычны, які больш кіруецца моднымі тэндэнцыямі з «Нью-Ёрк Таймс», чым рэаліямі Мінску ці Віцебску, і таму пераважна змагаецца з белымі гетэрасексуальнымі мужчынамі. Ну і, урэшце, трэці —фракцыя, якую можна назваць «рэвалюцыянеры любым коштам», яны ўхіляюцца ад пытанняў, звязаных з вынікамі і каштоўнасцямі, і лічаць, што спачатку, маўляў, валім рэжым, а там паглядзім.

Раней гэты падзел не быў бачны: апазіцыя ды апазіцыя. Зараз ён стаў больш заўважны. Гэта адбылося і 25 сакавіка, і напярэдадні — падчас пасяджэння аргкамітэту па правядзенні Дня Волі. Дзякуючы відэастрыму з пасяджэння людзі на ўласныя вочы пабачылі, як адбываюцца перамовы, хто здольны дамаўляцца, а хто не, хто клапоціцца пра свае амбіцыі, а хто — пра тое, каб справа была зробленая. На сённяшні момант можна пераканаўча казаць: рыса ўрэшце праведзеная.

«Рэвалюцыянеры» спрабуюць сябе запісаць у героі, а ўсіх іншых падаць як здраднікаў, бо ў іхніх галовах існуе рамантычная схема змагання з «крывавым рэжымам», аднастайная па форме і безвыніковая па сутнасці, але затое нібыта шчырая... І ўсе задаволеныя: і рэжым, бо захоўвацца статус-кво, і рэвалюцыянеры — бо яны адчуваюць сябе пакутнікамі і недаацэненай элітай народу.

***— Тэма пра аб'яднанне апазіцыі наогул яшчэ мае права на жыццё?***

— Не хачу выглядаць такім сабе Пазьняком разліву 1990-х, які казаў: «А хто тут апроч нас? Толькі БНФ — і ўсё!». Канешне, было б ідэальна, каб усе змаглі дамовіцца і працаваць у адным кірунку. Іншая справа, што ёсць розныя мэты — гэта факт. Па-другое, ёсць рознае разуменне галоўных небяспекаў для краіны. Па-трэцяе, ёсць амбіцыі, якія ў некаторых пераважваюць здаровы сэнс. Аб'ядноўвацца трэба з грамадствам, як бы банальна гэта ні гучала. Трэба прыслухоўвацца да чаканняў людзей, для якіх мы працуем. Гэта больш важна за настроі і планы суб'ектаў апазіцыі.

У свой час партыя БНФ заявіла, што не магчыма АДС (Аб'яднанне дэмакратычных сілаў. — аўт.) з партыямі, якія арыентуюцца на Маскву. Дзякаваць Богу, разуменне, што падобны водападзел правільны, прыйшло да беларускага грамадства. На жаль, і паважаныя мною асобы, як Павел Севярынец, кажуць яшчэ пра адзінства, што ўсе патрэбныя і г.д. Спадзяюся, што і ён з часам усё зразумее і прыме. Гэта патрэбна для дасягнення нашых мэтаў.



**Аляксей Янукевіч: «Не лічу, што выхад пяці чалавек — сур'ёзны пратэст»**

***— Якіх?***

— Для падвышэння нацыянальнай ідэнтычнасці, умацавання незалежнасці краіны, выхаду на сітуацыю, калі гэтыя з'явы стануць незваротнымі. Трэба думаць пра рэчы, якія можам рабіць ужо зараз, не адкладаючы на заўтра. Інакш — гэта жыццё ў акварыуме, з думкай, маўляў, правядзем свабодныя выбары, здымем Лукашэнку — і вось тады пачнём працаваць па-сапраўднаму. Але гэта трызненні! Так, некалі Лукашэнка сыдзе — і ў гэты момант шмат што будзе вырашацца. Але без той базы, якую мы можам закласці зараз, мы не зможам вырашаць нічога ані сёння, ані ў «сонечным заўтра» без Лукашэнкі.

***— Некаторыя вашы апаненты з апазіцыйнага лагеру маюць іншае бачанне...***

— Так, ёсць частка апазіцыі, якая ўжо 20 гадоў робіць тое самае, будучы сканцэнтраванай на пратэсце. Не важна, з якой нагоды, не важна, ці шматтысячны, ці маргінальны пратэст. Яны перакананыя, што некалі прыйдзе час, усё ў краіне стане настолькі кепска, што людзі масавы выйдуць на вуліцу — і вось тут побач ёсць яны, «чэмпіёны па пратэсце».

Гэта стратэгія абазначыць пазіцыю, пратэст. Кажу «абазначыць», бо не лічу, што выхад пяці ці дваццаці чалавек — сур'ёзны пратэст.

Гэта нават не дысідэнцтва, а маргінэз! Нам гэтым займацца не цікава. Трэба змяняць грамадства, пашыраць базавыя

# арганізатарам #БНР101




Фота Арцёма Лявы

Някляева, забаранілі таксама іншыя ініцыятывы «непалітычнага» характару. Напрыклад, чыноўнік, які выдаў вам дазвол, мне асабіста забараніў гістарычную рэканструкцыю (вядома, на самай справе сказаў, што адказ будзе за пяць дзён да планаванай даты, але мы ж усё разумеем). Не дазволілі падобнае мерапрыемства і Нацыянальнаму гістарычнаму музею на закрыцці выставы. Так што пытанне не толькі ў недагаваразодльных апазіцыянерах.

**Пытанне 3**

Зрэшты, няма нічога прынцыпова дрэннага ў дамоўленасці з уладамі. Гэта палітыка. Дрэнна, калі няма поўнай карціны таго, хто, пра што і на якіх умовах дамаўляўся. І што каму будзе ў тым выпадку, калі дамоўленасці не выконваюцца.

Я хачу атрымаць адказ на пытанне: затрыманні і гвалт у дачыненні да праваабаронцаў і журналістаў, простых людзей

**Хачу атрымаць выразны адказ ад арганізатараў на пытанне: вы ацэньваеце свята ля Опернага як масавае мерапрыемства апазіцыі ці гэта этап / крок / кропка незвароту ў бок дэмакратызацыі беларускага грамадства?**

на вуліцы з нацыянальнай сімволікай, крадзеж тэхнікі, фіксацыя ўсіх удзельнікаў свята на відэа — усё гэта з'яўляецца парушэннем дамоўленасцяў з боку ўладаў ці гэтых пытанняў у парадку абмеркавання з імі наогул не было?

Так, я чытала пра «жывёл» у Эдуарда Пальчыса і абурэнне Антона Матолькі ў дачыненні да міліцыянтаў. Але ў цэлым гэтыя падзеі не ёсць прычынай для перагляду канцэпцыі «свята», а наадварот — натхняюць арганізатараў на пашырэнне падобнага фармату. Таму ў мяне ўзнікае адчуванне, што супрацоўніцтва з абодвух бакоў высока ацэнена і імкліва развіваецца.

Тут ёсць два варыянты: альбо такой дамоўленасці не было (тады зразумела, чаму арганізатарам няма чаго прад'явіць), альбо яна была, але апынулася парушаная (тады арганізатарам трэба растлумачыць свае наступныя лаяльныя паводзіны).

Я прашу не прыкрывацца заявамі на сайтах партый і ў медыя. Не праз медыі вы падавалі заяўку і вялі перамовы аб фармаце свята. У выніку яго арганізатары не зрабілі нават сумеснай заявы, каб прадэманстраваць прынцыповасць у гэтым пытанні, і не пайшлі на прыём да тых міліцыянтаў, з якімі дамаўляліся. А калі пры ўсім пры гэтым вы вырашылі пашыраць фармат, то на якой падставе лічыце, што такіх рызык больш няма?

**Пытанне 4**

Наконт «паўтарыць». Канцэрт прыцягнуў значна больш людзей, чым магло сабраць шэсце, — гэта бясспрэчна, хоць як арганізатары ацэньваюць розніцу ў выніках, нам варта даведацца ў іх саміх (гл. маё пытанне 1).

Эдуард Пальчыс казаў, што ідэя свята лунала яшчэ да БНР99, але ў разгар вайны з дармаедамі было не да таго. Я думаю, ніхто не будзе спрачацца, што «свята» выглядала б дзіўным і ў 2006–2007 і ў 2011–2012 гадах — падчас жорсткіх рэпрэсій у краіне. Таму хачу загадзя атрымаць адказ ад арганізатараў: пры якіх умовах вы лічыце свята прымальным і якімі прынцыпамі вы кіраваліся пры яго арганізацыі?

Відавочна, парушэнні правоў чалавека падчас свята, цэнзура, а таксама выбіральнасць пры выдачы дазволу такімі прынцыпамі не з'яўляюцца. Я супраць вайны на вуліцы і нікуды не пайду пад лозунгамі «Лукашэнка ў ж**у». Пытанне ў тым, ці варта на наступным Дні Волі («Дні Беларусі») зрабіць танным разліўное піва, усталяваць надзіманыя замкі для дзяцей (вядома, у бела-чырвона-белых колерах) і пераносныя ціры для пашырэння аўдыторыі супрацоўнікамі АМАПу? Я паважаю бізнес-падыход, але ці застаецца нешта акрамя яго і бел-чырвона-белых кветак у пазначаным уладамі перыметры?

Напрыклад, Павел Белавус, каментуючы сваю новую канцэпцыю для «Радыё Свабода», наракаў, што на «Свяце незалежнасці» не хапіла месца для фудкорта рэстарацыі «Лідо», які належыць Упраўленню справамі прэзідэнта краіны. Калі хто не ў курсе, то арганізатары масавых мерапрыемстваў атрымліваюць грошы за прадстаўленую кропку продажу (колькі грошай атрымалі за гэта арганізатары «Свята незалежнасці» і на што яны былі выдаткаваныя, у справаздачы кампаніі не пазначана), і на любыя гарадскія святы такіх жадаючых дзясяткі. Калі ўявіць, што «Лідо» плаціць арганізатарам на Дні Волі (колькі?), а потым робіць месячную касу з нашай кішэні на карысць Упраўлення справамі прэзідэнта, то людзям, якія прыйшлі на свята, трэба пра гэта ведаць загадзя.

Дарэчы, Антон Матолька часта падымае пытанне карупцыі і дзяржзакупак, мы ўсе ведаем, як чыноўнікі плацяць з бюджэту сваім фірмам, часам па завышаных цэнах. Думаю, добрым жэстам з боку арганізатараў была б фінансавая празрыстасць наконт сабраных грошай: колькі і за якія грошы закуплялася сімволіка ў Symbal.by, каму і па якой цане заказвалі друк улётак і г.д. Калі мы патрабуем гэтага ад уладаў, лагічна выкарыстоўваць прынцып празрыстасці і чысціні здзелак перад грамадствам.

**Пытанне 5**

Нагадаю, што Аляксей Януковіч ацэньвае «Свята незалежнасці» як прарыў у дыялогу з уладамі, міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей таксама заявіў пра руку, «працягнутую» апанентам. Пра крок да аб'яднання нацыі піша і паважаны аналітык Арцём Шрайбман.

Калі ў нас сапраўды з'явіўся шанец на перамены, да #БНР101 трэба зрабіць тэсты, ці надышоў час святкаваць. Не, я не прапаную патрабаваць неадкладных свабодных выбараў і свята дэмакратыі на магчымым неўзабаве рэферэндуме. Хай гэта будзе сумесна распрацаваная праграма па выратаванні беларускай мовы, за якую пакуль атрымліваюць штрафы — у тым ліку арганізатары # БНР100. Або вызваленне ад падаткаў выдавецтваў кніг на беларускай мове.

Давайце рабіць малыя рэальныя крокі — але такія, якія вымяраюцца не колькасцю людзей, што прыйшлі на чарговы мітынг, а паказваюць сістэмныя змены.

Дык якім будзе наш наступны крок?

**Паводле journalby.com, пераклад НЧ**

# гэты момант шмат што будзе вырашацца»

каштоўнасці, патрэбныя для нармальнага развіцця краіны. Тут няма месца пазёрскаму дысідэнцтву, гэта сістэмная праца. Не памылюся, калі скажу, што на такіх пазіцыях сёння стаяць вельмі розныя людзі. Гэта і Павел Белавус, далёкі ад палітыкі ды апазіцыйнага жыцця. Адначасна — Зміцер Дашкевіч, змагар з вялікім стажам, у якога за спінай не адзін год за кратамі. Заўважце, ён таксама падтрымаў канцэпцыю свята на Дзень Волі, бо такі фармат будзе мець плён, адгукнецца ў сэрцах людзей.

***— Што вы адкажыце крытыкам, якія кажуць пра «патанцулькі» ў той час, калі за пару соцень метраў людзей пакуюць у аўтазакі?..***

— Мы катэгарычна асуджаем затрыманні людзей, бо Беларусь павінна быць вольнай краінай, дзе людзі маюць магчымасць для мірнага пратэсту. Але што канкрэтна прапаноўваюць крытыканы? Трэба было скасаваць мерапрыемства ля Опернага? Ці ўся краіна мелася калектыўна ў аўтазак сесці?.. Не выйшлі і не маглі выйсці тысячы людзей на заклікі БНК. Адразу было зразумела, што будзе 150 чалавек — гэта мяжа амбіцыяў арганізатараў. Пераканаi, што ім проста важна было паказаць, як усё дрэнна, а пасля звінавачваць нас, што слаба за іх перажываем.

***— А што, усё добра?***

— У нашай краіне шмат чаго не добра і не правільна. Але наша задача як арганізатараў — паказаць грамадству, што ёсць надзея і шырокі далягляд для дзейнасці і руху наперад. Лічу, што дзеля гэтага мы і павінны былі працаваць, не зважаючы ні на што. І мы сваю задачу выканалі.

***— Дык а што са скрадзенымі дронамі?***

— Няўжо нам варта было скасоўваць шматтысячнае мерапрыемства ля Опернага з-за кепскіх рэчаў, якія мелі месца ў той дзень?.. Думаю, не. Пытанне ж больш грунтоўнае. Ці мы лічым сённяшнюю Беларусь сваёй краінай? Ці гэта чужая краіна, а свая нам некалі зваліцца на галаву? І тут аснова водападзелу — адказ на пытанне: «Ці наша гэта краіна?».

***— У параўнанні з Днём Волі сёлетні Чарнобыльскі шлях выглядаў невыразна... Ці значыць гэта, што пасля 25 сакавіка ўсё вярнулася на свае месцы і пайшоў адкат?***

— На жаль, Чарнобыльскі шлях з гадаміператварыўся ў рытуальную акцыю, якая ўжо не нясе таго значэння, якое несла ў 1990-х: гэта і не даніна памяці ахвярам Чарнобыля, і не радыкальны пратэст, а незразумела што... Таму акцыя малалікая, непапулярная. Магчыма, на добры розум, з часам яна можа набыць новы фармат. Напрыклад, ператварыцца ў «канцэрт-рэквіем» па ахвярах трагедыі. Альбо ў нішавую акцыю «зялёных», якая будзе тычыцца выключна экалагічных праблемаў.

***— То бок, акцыю, запатэнтаваную «Народным фронтам», трэба аддаць «зялёным»?***

— Для саміх сябе важна зразумець, што плюсаў у плане працы з грамадствам мы ад гэтай акцыі не атрымліваем, і наўрад ці калі атрымаем. Аб'ектыўна, акцыя згубіла яснае разуменне свайго фармату. Размова — не пра «аддаць», а пра «пераасэнсаваць», бо мы маем сыходзіць з сучасных рэаліяў, а не з таго, што адбывалася ў 1990-х гадах. Ёсць гісторыя, а ёсць сённяшні дзень са сваімі выклікамі і патрэбамі.

***— Сёлета БНФ святкуе 30-годдзе... Ці змяняецца «Народны фронт», і што зараз бачыць сярод сваіх прыярытэтаў?***

— На працягу гэтага часу партыя выконвала не толькі вузкапалітычную функцыю, але і місію: быць таранам супраць саўковай свядомасці. Ёсць рэчы і тэмы, якія мы будзем уздымаць, няважна, гатовае грамадства сёння гэта ўспрыняць ці не — яны наўпрост маюць быць агучанымі. Разам з тым, мы клапоцімся, каб нашыя базавыя каштоўнасці былі грамадствам прынятыя, каб людзі зразумелі карысць і важнасць ад незалежнасці і беларускай Беларусі.

***— Незалежна ад сітуацыі з правамі чалавека ці свабоднымі выбарамі?***

— Свабодныя выбары будуць азначаць прыход БНФ да ўлады, як мы можам быць супраць? Але мы разумеем, што ў сучаснай сістэме свабодныя выбары будуць не пачаткам, а лагічным завяршэннем палітычных пераменаў. І да гэтага лёсавызначальнага моманту мы можам падыйсці альбо з беларусацэнтрычным грамадствам, альбо — з «ватным», поўным нянавісці да свайго-роднага, завязаным на расійскую інфапрастору.

***— Калі свабодныя выбары адбудуцца зараз, калі вялікі адсотак выбарцаў глядзяць расійскае тэлебачанне альбо чапляе ў машынах георгіеўскія стужкі, каго ж тады абяруць?***

— Так, гэта праблема. Расія апошнімі гадамі кладзе шмат высілкаў і рэсурсаў на стварэнне ў Беларусі сваёй інфраструктуры, якая будзе падпарадкоўвацца не Лукашэнку, а непасрэдна Маскве. Наўпрост уявіце, што гэтыя людзі ў момант пераменаў актыўна ўключацца ў палітычны працэс, будуць любым коштам праводзіць сваіх. А што мы? Ці маем годную альтэрнатыву? Альбо ўсе нашы здабыткі за шмат гадоў зводзяцца адно да лозунгу: «Усё дрэнна, даеш рэвалюцыю!» Каб такога не было, мы імкнёмся працаваць з людзьмі сёння.

Адной з мэтаў беларусафобаў ва ўладных структурах заўжды было паказаць, што нацыяналісты — гэта маргіналы і лузеры, у іх ніколі нічога не атрымліваецца. Дзе яны — там праблемы, аўтазакі, дэградацыя. Сёлетні фармат 25 сакавіка ламае гэты стэрэатып. Свята незалежнасці апынулася падзеяй, на якой хочацца быць, дзе крута, пра якую хочацца распавесці сябрам. Вяртанне вышыванкі, нацыянальнай сімволікі, пашырэнне сферы ўжытку беларускай мовы — гэта паспяховыя і ўдалыя праекты, да якіх людзям хочацца далучацца. Для гэтага БНФ і стварaўся, гэта мы і робім. І калі ты гэтым займаешся, паверце, часу на тое, каб абарочвацца на цўканне і наракання з бакоў, наўпрост не застанецца.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Вярнуць індзейцам Амерыку!

Вядомы гісторык Цімаці Снайдэр папярэдзіў адміністрацыю Трампа пра наступствы ідэі падкарэктаваць статут Амерыканскай службы па справах грамадзянства і міграцыі (USCIS). Яе цяперашняе кіраўніцтва вырашала выкрасліць з тэксту статуту пункт пра тое, што «Амерыка — гэта нацыя мігрантаў». Чамусьці чыноўнікі лічаць, што папраўка дазволіць юрыдычна працей адмаўляць мігрантам у іх просьбах пра наданне прытулку. Снайдэр, у сваю чаргу, лічыць, што такі крок створыць юрыдычную базу для перагляду адносін паміж індзейцамі і амерыканцамі — нашчадкамі мігрантаў. Паводле амерыканскага закона, захоп земляў індзейцаў падчас каланізацыі быў справядлівым, паколькі ўсё гэта адбываўся ў межах так званай «Дактрыны адкрыцця». Па гэтым прынцыпе індзейцы не былі законнымі ўладальнікамі зямлі. У наш час індзейскія актывісты шмат разоў намагаліся скасаваць «Дактрыну адкрыцця», аднак беспаспяхова. І вось цяпер сама дзяржава стварае юрыдычны казус. Калі Амерыка — не краіна мігрантаў, то значыць, яна краіна індзейцаў, якія могуць патрабаваць вяртання сабе земляў, што калісьці захапілі каланізатары.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КІТАЙ. Як згвалціць Маа?

Калі верыць статыстыцы, штогод у Кітаі караюць смерцю каля 5 тысяч чалавек, як правіла, за разнастайныя крымінальныя злачынствы. На гэтым фоне вылучаецца справа супрацоўніка маўзалея, дзе з 1976 года спачывае цела заснавальніка КНР Маа Цзэдуна. Як піша кітайскае выданне «Beijing Express», гэтага супрацоўніка могуць пакараць смерцю за тое, што ён абразіў гонар Вялікага кормчага. Злачынства было ў тым, што супрацоўнік фатаграфаваў свае геніталіі на фоне нябожчыка. Ён паспеў зрабіць больш за дзве тысячы здымкаў, перш чым паліцыя зацікавілася незвычайным хобі. Па словах арыштаванага, ён проста хацеў пажартаваць і павесяліць сяброў. Акрамя таго, калегі кажуць, што затрыманы пасля нядаўняй смерці жонкі трапіў у дэпрэсію. Аднак наўрад ці гэтыя аргументы будуць пачутыя судом. Па словах следства, на многіх здымках супрацоўнік выяўлены ў позах, якія можна трактаваць як «сексуальны кантакт» з муміяй. На думку ўсё той жа «Beijing Express», у абвінавачанага вельмі мала шанцаў пазбегнуць смяротнай кары.

**Паводле кітайскай прэсы**

### РАСІЯ. Казакі будуць правяраць кампутары?

Віцэ-губернатар кубанскага краю Мікалай Далуда (ён жа вайсковы атаман Кубанскага казацкага войска) заявіў, што створаны ім Саюз казацкай моладзі Кубані, акрамя адраджэння казацкай культуры, будзе абараняць духоўнае здароўе падрастаючага пакалення. Канкрэтна гэта будзе выяўляцца ў тым, што «кубамол» (так празвалі згаданую структуру ў народзе) будзе правяраць, што змяшчаецца на кампутарах маладых людзей. «Калі ў дзіцяці ёсць кампутар, то ён абавязкова будзе лазіць у ім. І не «Абвгдейку» ён будзе шукаць, а абавязкова якую-небудзь брыдоту. А наша моладзевая арганізацыя дазваляе адцягваць школьнікаў ад гэтага», — сказаў Далуда. Гэта не першая незвычайная акцыя з боку «кубамола». Раней яго лідары заявілі пра намер апрануць усіх школьнікаў на Кубані ў казацкую форму, за якую павінны былі, дарэчы, плаціць бацькі. Цікава, што расійская патрыятычная грамадскасць, якая таксама выступае за закручванне гаек, вельмі асцярожна ставіцца да ідэй Далуды. Гэта звязваюць з тым, што Далуда разам з тым, што часта крытыкуе Амерыку і дэмакратаў, сцвярджае, што кубанскія казакі — асобная ад рускіх нацыя.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Канец чорных джыпаў

Грузія вырашыла канчаткова разарваць з эпохай бандыцкіх 1990-х, сімвалам якой былі чорныя джыпы «браткоў». Пастановай ураду аўтамабілі ўсіх класаў, прызначаныя для дзяржаўных служачых у Грузіі, могуць быць любога колеру, акрамя чорнага. Асабліва гэта тычыцца чорных пазадарожнікаў класа «люкс». «Думаю, што надышоў час завяршыць эпоху чорных джыпаў у Грузіі. (...) Я думаю, што, калі гаворка пойдзе пра змену аўтапарка, мы павінны сказаць «не» гэтаму чорнаму колеру. Прыйшоў час экалагічна чыстага транспарту, і ў першую чаргу мы памяняем аўтамабілі на ўзроўні міністраў», — заявіў кіраўнік урада, передае «Навіны — Грузія». У прынцыпе, грузіны пазітыўна сустрэлі навіну. Чорны колер машынаў, сапраўды, асацыюецца ў людзей з крымінальным жыццём. Аднак некаторыя не вераць у заявы чыноўнікаў. На іх думку, у структурах ураду ўжо падрыхтаваны кантракт на закупку аўтамабіляў у якой-небудзь канкрэтнай кампаніі, у якой скончыліся чорныя машыны. Таксама хапае тых, хто лічыць, што ў краіне багата больш істотных праблем, чым колер аўтамабіляў чыноўнікаў.

**Паводле грузінскай прэсы**

# Суэц, Панама, Стамбул

*Алег НОВІКАЎ*

**Турэцкі кіраўнік Рэджэп Таіп Эрдаган 28 красавіка паабяцаў пабудаваць новы канал, што злучыць Чорнае і Міжземнае мора.**



Фота www.cdnimg.rg.ru

Эрдагану, як вядома, у народзе далі мянушку «Султан». Гэта, напэўна, прымушае палітыка час ад часу параўноўваць сябе з былымі турэцкімі султанамі. Магчыма, у аднаго з іх ён і падглядзеў ідэю пракапаць канал, паралельна Басфору. Упершыню праект паўстаў яшчэ ў часы Сулеймана Цудоўнага (1520–1566). Пры Мурадзе ІІІ (1574–1595) быў выдадзены адпаведны фірман (загад) аб пачатку працаў, аднак далей справа так і не рушыла. Абмяркоўвалася гэта ідэя і пры больш позніх султанах, аднак без усялякай канкрэтыкі.

Новая фаза НТР, якая прыйшлася на часы краху султанату і абвяшчэння Турэцкай рэспублікі, дала чарговы імпульс фантазіям на гэты конт. Найбольш буйны праект быў прапанаваны ў 1925 годзе нямецкім архітэктарам Германам Зёргелем. Ён прапаноўваў перагарадзіць гідраэлектрычнай дамбай Гібралтарскі праліў, а другой дамбай перакрыць Дарданэлы. У выніку ўзровень вады ў Міжземным моры панізіўся б прыблізна на 100 метраў. Такім чынам меркавалася не толькі атрымліваць электраэнергію, але і падаваць ваду ў Сахару, каб яна стала прыдатнай для сельскай гаспадаркі. Еўропа і Афрыка сталі б адным кантынентам — Атлантропай, а замест Міжземнага мора з'явілася б штучнае мора. План Зёргеля патрабаваў згоды буйных дзяржаў, якія яўна не былі гатовыя да такой задумы. Акрамя таго, абурыліся жыхары еўрапейскага Поўдня, якія не ўяўлялі сваё жыццё без мора.

Прыкладна з 1990-х гадоў стартавала новая хваля інтарэсу да ідэі «другога Басфора», які загадзя атрымаў назву «Стамбул». Самае цікавае, што спачатку з гэтай ідэяй насіліся левыя турэцкія партыі, апанентам якіх выступаў Эрдаган і яго «Партыя справядлівасці і развіцця» (АКР). Такая дыспазіцыя прымушала Эрдагана крытыкаваць ідэю каналу, публічна называць яго «глупствам».

Пазіцыя АКР кардынальна змянілася пару гадоў таму, калі яе функцыянеры пачалі ўсё часцей падтрымліваць будаўніцтва каналу. А 28 красавіка абяцанне пабудаваць канал прагучала з вуснаў самога Эрдагана на выбарчым мітынгу. Па яго словах, водная артэрыя стане асноўным прыярытэтам яго будучай адміністрацыі.

Такім чынам, літаральна праз 5 гадоў у еўрапейскай частцы Турцыі з'явіцца новы канал даўжынёй 45 кіламетраў. Пачатак яго эксплуатацыі адразу паслабіць ціск на Басфор, які здольны прапускаць штодня 130 караблёў. Плануецца, што новы канал зможа прапускаць да 160 караблёў на дзень. Пераважна гэта будуць нафтавыя танкеры, якім маршрут па Басфоры вельмі нязручны. Двойчы ў гісторыі танкеры ўжо цярпелі там крушэнне, забруджваючы ваду праліву. Ёсць думка пабудаваць на канале і гідраэлектрастанцыю.

Акрамя таго, у раёне каналу «Стамбул» паўстане новая эканамічная зона з развітай інфраструктурай, якая будзе прыцягвайць правінцыялаў. За кош гэтага, як спадзяюцца ў Эрдагана, замарудзяцца тэмпы росту насельніцтва Стамбула

**Літаральна праз пяць гадоў у еўрапейскай частцы Турцыі з'явіцца новы канал даўжынёй 45 кіламетраў. Пачатак яго эксплуатацыі паслабіць ціск на Басфор. Новы канал зможа прапускаць да 160 караблёў на дзень, у той час як Басфор — 130**

(сёння каля 15 мільёнаў чалавек), які даўно пакутуе на перанасяленне.

Ужо вядомыя некаторыя лічбы і параметры, звязаныя з будоўляй стагоддзя. Для таго, каб пракапаць канал, трэба будзе прыцягнуць каля 6 тысяч рабочых. Бюджэт будаўніцтва складзе каля 14–16 мільярдаў долараў. Пакуль крыніцы грошай, праўда, невядомыя. Увогуле, эканамічны бок праекту выклікае шмат пытанняў. Шмат у чым ён выкліканы правалам яшчэ аднаго мегапраекту Эрдагана — гаворка пра мост Асман Газі, адкрыты ў 2016 годзе пад Стамбулам. Чацвёрты па працягласці вісячы мост у свеце аказаўся нерэнтабельным праз высокую плату за праезд. Кіроўцы надаюць перавагу традыцыйным і больш танным паромам.

Як і трэба было чакаць, праект новага каналу не спадабаўся эколагам, якія яшчэ ў 2013-м запусцілі петыцыю супраць праекту, які яны называюць «Канал—кашмар». Калі ім верыць, «канал-кашмар» разбурыць баланс паміж салёным Мармуровым морам і менш салёным Чорным. У выніку Чорнае мора пачне губляць ваду, што кепска паўплывае на такія рэкі, як Дунай, Дняпро і Днестр. Прагназуюць таксама і гніенне вялікіх масаў вады, што створыць над Стамбулам задушлівы смог з пахам гнілыя яек.

Безумоўна, праект каналу ўтрымлівае шмат геапалітычнага падтэксту. Дзякуючы новаму каналу блок NATO зможа хутка павялічваць прысутнасць сваіх караблёў у Чорным моры. Праўда, для гэтага будзе патрэбная згода Анкары, якая, дзякуючы каналу, значна павялічыць сваю вагу ў рэгіёне. Праўда, будуць цяпер варушыцца і іншыя. Не выключаюць, што з пачаткам будаўніцтва канала «Стамбул» трэба чакаць больш актыўных дзеянняў вакол магчымага будаўніцтва каналу паміж Каспійскім морам і Персідскім залівам. Масква і Тэгеран яшчэ ў 2015-м анансавалі план зрабіць нешта падобнае да 2030 года. У такім разе расійскі ВМФ зможа выходзіць у сусветны акіян, не карыстаючыся турэцкімі праліваміі.

Нягледзячы на шматлікія супярэчнасці вакол праекту, думаецца, што будаўніцтва каналу — справа вырашаная. На гэты крок Эрдагана штурхае сама логіка аўтарытарнага рэжыму, які ён цяпер актыўна будуе. Дэфіцыт дэмакратыі і застой грамадскага жыцця аўтарытарныя ўрады намагаюцца кампенсаваць нейкімі «будоўлямі стагоддзя». А тут яшчэ набліжаецца і сотая гадавіна абвяшчэння турэцкай рэспублікі ў 2023 годзе, калі Эрдаган папросту будзе вымушаны прэзентаваць народу нешта каласальнае.


Фота REUTERS

# Армянскі Майдан: погляд з Баку

Алег НОВІКАЎ

**Падзеі ў Арменіі выклікаюць павышаную цікавасць у Азербайджане, які знаходзіцца ў стане вайсковага канфлікту з краінай-суседкай.**

На першы погляд, ніякіх тэктанічных зрухаў наступ апазіцыі ў Арменіі не выклікае. Яе лідар Нікол Пашынян абяцае застацца адданым геапалітычным саюзнікам Масквы, падтрымліваць статус-кво ў Нагорным Карабаху і шукаць выйсце з канфлікту праз дыялог. «Бяспека з'яўляецца прыярытэтам для нас. Я цалкам падтрымліваю Нагорны Карабах і яго ўлады», — заявіў Пашынян, паабяцаўшы «прывесці Азербайджан у канструктыўнае поле».

Аднак на берагах Каспію ўпэўненыя, што Арменія, якой пачне кіраваць Пашынян, не будзе падобнай на краіну за часамі рэспубліканцаў Сержа Саргсяна. Сыход Саргсяна з палітычнай арэны азербайджанскі афіцыёз увогуле святкуе не менш, чым натоўп апазіцыянераў у Ерэване.

«Армянскі народ нарэшце вызваліўся ад ваеннага злачынцы Саргсяна, які пазбавіў Арменію развіцця, у тым ліку ўдзелу ў міжнародных праектах. Саргсян здзейсніў мноства крывавых злачынстваў, будучы адным з галоўных вінаватых у стварэнні нагорна-карабахскага канфлікту. Ён падверг армянскі народ шматлікім бедам, стварыў свой урад на крыві і гвалце», — адзначае праўрадавае выданне «Trend».

Пры гэтым радасць за армян, якія зрынулі дыктатара, суседнічае з каментарамі, аўтары якіх спадзяюцца, што палітычная анархія ператворыць Арменію ў failed-state. «Арменія ўсё больш апускаецца ў хаос, і яе сілы вычэрпваюцца. 20-дзённая вулічная ліхаманка ўсё далей расхіствае асновы армянскай дзяржаўнасці», — лічыць, напрыклад, палітолаг Тофік Абасаў. Ён і некаторыя іншыя палітолагі не хаваюць надзеі, што магчымыя хуткія эканамічныя праблемы Арменіі — следства цяперашняга хаосу, — прымусяць яе кіраўніцтва пагадзіцца на азербайджанскі варыянт рашэння Карабахскага пытання.

Ёсць у азербайджанскай дыскусіі наконт армянскай «аксамітнай рэвалюцыі» і іншы трэнд. Яго тыповы прадстаўнік, бакінскі палітолаг Алі Мамедаў увогуле заявіў, што галоўны фактар поспеху Пашыняна — мудры курс азербайджанскага гаранта Ільхама Аліева. «Масавай незадаволенасцю насельніцтва Саргсянам і сваім узыходам на Алімп прэм'ерства Пашынян ускосна абавязаны Ільхаму Аліеву, на фоне лідарства якога мізэрнасць Саргсяна была асабліва прыкметная. Зразумець гэта няцяжка», — падсумаваў палітолаг.

У мейнстрыме таксама думка, што прыход Пашыняна да ўлады прымусіць Маскву канчаткова спыніць вайсковую дапамогу Ерэвану. Напрыклад, сайт Day.az адзначае: «Зразумела, што пасля прыходу да ўлады Пашыняна і празаходняга ўрада Арменія выйдзе і з ЕАЭС, і з АДКБ, ды стане адной з самых варожых Расіі краін. На месцы Крамля цяпер самым разумным было б заняцца вывадам узбраення з базы ў Гюмры — інакш ёсць небяспека, што яно будзе захоплена былымі «саюзнікамі». У кантэксце амаль немінучага росту і без таго дзікай русафобіі, этнічным рускім у Арменіі будзе пагражаць цалкам канкрэтная небяспека».

Апазіцыйная прэса Азербайджана, у сваю чаргу, мяркуе, што армяна-расійскі саюз захаваецца і пры Пашыняне, аднак сувязі будуць больш слабымі. На думку выдання Haqqin.az, пратэсты ў Ерэване — гэта таксама пратэсты супраць безальтэрнатыўнай прарускасці Арменіі ў знешняй палітыцы. Але пакуль гэта будзе выяўляцца ў вельмі мяккай форме, у асноўным праз новую дыскусію ў армянскім грамадстве. «Але ў любым выпадку, гэта ўжо дрэйф ад Расіі, які нельга ігнараваць», — робіць рэзюме выданне.

Чакаюць у Азербайджане і хуткага абвастрэння сітуацыі на Карабахскім фронце. Бакінская прэса лічыць, што ваяўнічы нацыяналізм з'яўляецца складнікам любога вулічнага пратэсту ў Арменіі. На думку выдання Oxu.az, сярод простых армян «існуе папулярны міф, што, маўляў, Расія не дае «вялікім армянам» канчаткова разграміць Азербайджан і пачаць «вызваленчую вайну» за захоп зямель Усходняй Турцыі, якую армянскія нацыяналісты называюць «Заходняй Арменіяй».

Пра ваяўнічасць армян, маўляў, сведчыць і новы імідж Пашыняна. Незадоўга да пачатку пратэстаў ён нечакана змяніў дарагі дэпутацкі гарнітур на камуфляж і бейсболку. Плюс адпусціў бараду. Падобны фасон адразу выклікае сярод армян асацыяцыі з легендарным вайсковым валанцёрам Мантэ Мелканянам па мянушцы Аво, які таксама насіў бейсболку, бараду і камуфляжную форму. Для даведкі: Аво — ураджэнец Каліфорніі, які ўсё свядомае жыццё правёў на розных франтах, пакуль не прыехаў у Нагорны Карабах, дзе загінуў у 1993-м. Пасля смерці Аво ўрачыста пахавалі, надаўшы яму званне нацыянальнага армянскага героя.

А вось апазіцыйная супольнасць, наадварот, лічыць, што Пашынян нясе мір на Каўказ. Усё той жа Haqqin.az акцэнтуе ўвагу на тым, што аснову палітыкі ўлады Сержа Саргсяна і яго клану складаў Карабахскі канфлікт. Іншага, як «Карабах наш», прапанаваць ён насельніцтву не быў здольны. «Новая ўлада ў Арменіі вымушана будзе ў той ці іншай ступені прасоўваць еўрапейскія ліберальныя каштоўнасці. Інакш у жыцці насельніцтва пасля рэвалюцыі і з адстаўкай Саргсяна наогул нічога не зменіцца. Усё гэта можа прывесці да адносна прагматычнага падыходу Ерэвана да ўрэгулявання Карабахскага канфлікту», — піша Haqqin.az.

Дарэчы, некаторыя дзяржаўныя СМІ Азербайджана таксама спадзяюцца на падобны сцэнар, аднак што ў галаве ў Пашыняна — пакуль вядома толькі яму аднаму.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Кім Чэн Ын



Кіраўнік КНДР выклікаў вялікае здзіўленне сваімі паводзінамі на карэйскім саміце, які адбыўся 27 красавіка. Сюрпрыз заключаецца ў тым, што на працягу ўсяго мерапрыемства ён ні разу не паліў.

Ён вядомы тым, што не расстаецца з цыгарэтай нават падчас наведвання дзіцячых садкоў. На думку часткі каментатараў, дарадцы змаглі давесці Кіму, што сваім курэннем ён дэманструе непавагу на адрас візаві — паўднёвакарэйскага прэзідэнта Мун Джэ Іна, які ў дадатак старэйшы за яго на 31 год. Некаторыя лічаць, што Кіму перад сустрэчай нейкім чынам увялі ў арганізм нікацін, каб у яго не ўзнікала жадання абвяшчаць перакуры.

Той факт, што Кім Чэн Ын адмовіўся ад тытуню ў імя міру, быў успрыняты як добры сігнал. На гэты конт МЗС Паўднёвай Карэі нават зрабіла адпаведны каментар. Цікава, што адначасова ў мясцовай прэсе нават гучаць думкі, як паўплываць на Кіма, каб ён кінуў дрэнную звычку і не ставіў пад пагрозу сваё здароўе, стан якога можа паўплываць на мірны дыялог паміж Поўначчу і Поўднем.

### Уладзімір Пуцін



Кіраўнік Расіі даручыў Рускаму геаграфічнаму таварыству падрыхтаваць новы геаграфічны атлас свету «без скажэння дадзеных».

На пасяджэнні Рускага геаграфічнага таварыства ён таксама заўважыў, што «мы сутыкаемся з сітуацыяй, калі рускія назвы, якія давалі яшчэ ў мінулыя стагоддзі і дзясяцігоддзі нашы даследчыкі, паступова выштурхоўваюцца з мапаў свету».

Нечаканая ініцыятыва выклікала шквал каментараў. Патрыёты вітаюць ідэю Пуціна, спадзеючыся, што на карту вернуцца такія назвы, як Тыфліс або Наваросія. Акрамя таго, патрыятызм у тапаніміцы існуе ва ўсім свеце. Так, напрыклад, у Аргенціне ніхто не называе Мальвінскія выспы Фальклендскімі. Іншыя здзіўляюцца: Пуцін скардзіцца на тое, што з мапаў свету выцясняюцца рускія назвы, аднак гаворка ідзе выключна пра шэраг дробных астраўкоў непадалёк ад Антарктыды, якія ў свой час апісала экспедыцыя Белінсгаўзена і Лазарава.

Некаторыя турбуюцца, што новы атлас — гэта першы крок. Наступным можа стаць напісанне новай гісторыі, якая пераканаўча давядзе, што менавіта рускім усе абавязаны ключавымі вынаходніцтвамі і адкрыццямі. Кажуць, што тапанімічная акцыя Масквы можа выклікаць адваротную рэакцыю іншых дзяржаў — аж да з'яўлення на іх мапах «Масковіі».

### Кім Кільсен



Лідар сацыял-дэмакратычнай партыі Грэнландыі і яго структура ўтрымаліся ва ўладзе па выніках выбараў 24 красавіка. Аднак новая кадэнцыя Кільсена абяцае быць не зусім звычайнай.

Справа ў тым, што для фарміравання ўрада эсдэкам давядзецца шукаць саюз з радыкальнымі левымі з партыі «Inuit Ataqatigiit», якая лічыцца галоўнай сепаратысцкай палітсілай на востраве, што належыць Даніі. У гэтым плане прэса не выключае, што бліжэйшым часам пачнецца працэс выхаду Грэнландыі са складу Даніі, Канстытуцыя якой, дарэчы, дапускае такі працэс. На думку прэсы, востраў хутка пойдзе па шляху паступовага дасягнення незалежнасці пры захаванні дацкіх субсідый.

Што адбудзецца з Грэнландыяй у будучыні — складана нават уявіць, асабліва ў кантэксце глабальнага пацяплення. Дзякуючы змене клімату стануць даступныя карысныя выкапні вострава, якія, напэўна, будуць прадметам інтарэсу вялікіх дзяржаў.

Іншыя лічаць, што ўрад пад камандаваннем сацыял-дэмакратаў наўрад ці ў кароткатэрміновай перспектыве будзе шмат казаць пра незалежнасць. Дарэчы, 26 красавіка нечакана адмнілі рэферэндум аб пашырэнні аўтаноміі на Фарэрскіх выспах — яшчэ адной тэрыторыі Капенгагена ў Паўночным моры. Перамога сепаратыстаў на Фарэрах магла стаць сігналам для аднадумцаў Грэнландыі і суседняй Шатландыі.

# Слова Славаміра

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Перадвыходная сталічная пятніца 26 красавіка 1996 года абяцала быць цёплай. Жыхары марылі пра хутчэйшае заканчэнне працы, каб прайсціся з сем'ямі і сябрамі па квітнеючым горадзе. Праўда, у свежым паветры ўжо пахла навальніцай: дзясяткі тысяч неабыякавых людзей вырашылі прыняць удзел у Чарнобыльскім шляху з нагоды дзесяцігоддзя страшэннай катастрофы і аднačасова выказаць пратэст супраць палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.**

У дзень Чарнобыльскага шляху адзін чалавек зрабіў запіс у сваім дзённіку: «Дзесяць гадоў з дня аварыі на ЧАЭС. Ясны цёплы дзень, якога я не бачу, толькі чую гукі з волі: ціўкае сініца, мяўкае кот, званы на Катэдральным саборы. Сёння там БНФ арганізуе шэсце. Як яно будзе? У двары паміж турмой і будынкам Міністэрства ўнутраных спраў салдаты ўнутраных войскаў і амапаўцы бразгаюць шчытамі, чуваць каманды. Відаць, грузяцца на машыны. Што там адбываецца? Ці выстаяць нашы людзі?»

Прыняць удзел у Чарнобыльскім шляху ён не мог, бо на той час з'яўляўся вязнем «амерыканкі». І каб даведацца, хто гэта такі і як аказаўся ў каменных абдымках адной з самых страшэнных беларускіх турмаў, неабходна зрабіць экскурс у мінулае.

### «Трэба правейваць нашы галовы ад шамурыння каланіяльнай псіхалогіі...»

У 1990 годзе літаратурнае асяроддзе краіны пазнаёмілася з «Кальварыйскімі клёнамі». Гэты невялічкі дэбютны паэтычны зборнік з'явіўся на свет не ў шараговай друкарні, а ў выдавецтве ЦК КПБ Беларусі. Тагачаснае кіраўніцтва Беларускай ССР пачало падлашчвацца пад новыя павевы і мусіла даваць «зялёнае святло» новым талентам. Аўтарам значыўся студэнт БДУ, сябра таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» Славамір Генрыхавіч Адамовіч, які нарадзіўся ў 1962 годзе ў далёкай Архангельскай вобласці. З біяграфічных звестак, змешчаных у брашуры, можна было даведацца, што Славамір скончыў школу ў Будславе, служыў на флоце, працаваў на чыгунцы, на мінскім станкабудаўнічым заводзе імя Кірава, і нават на цаліне.

Прыналежнасць да «Тутэйшых» казала пра многае і, безумоўна, адлюстравалася на змесце вершаў. Гэта і пагарда да сталінізму і яго сексотаў («Песня пра чалавека ў цывільным»), гэта і крытыка саветчыны, якая літаральна прыдушыла Беларусь і іншае. Славамір адным з першых адлюстраваў мары пакалення «шасцідзясятнікаў» аб адраджэнні нацыянальнай культуры і мовы.

*Якісьці паэта сказаў, што дзве мовы ў яго, і абедзве родныя.*
*Падумаў тады: няўжо, ты, паэце, дзвюх матак сасаў немаўляцем?*

Альбо:

*Цябе на афіцэра вучаць,*
*На перапынку размаўляў па-беларуску.*
*Задумаўся і на ўроку пачаў так.*
*Ды хутка апёкся — маёр не зразумеў:*
*«Перестаньте разговаривать на местном наречии».*
*...Ты Каліноўскага ўспомніў.*

Вялікае ўражанне на Адамовіча аказалі падзеі ў Мінску 30 кастрычніка 1988 года, калі ўлады ўчынілі абсалютна бессэнсоўны, жорсткі разгон мітынгу на Дзень памяці продкаў («Дзяды»). У 1992 годзе ў адным з нумароў «Настаўніцкай газеты» ў артыкуле «Шасцёра супраць чатырох» (гаворка ішла пра гульні пад дыванам на філфаку БДУ наконт выкладання беларускай і рускай моваў, стварэння адпаведных кафедраў, выдзялення гадзін і іншага) паэт пад псеўданімам Генрых Чорны з задавальненнем успамінаў, як студэнты філфака выгналі сакратара Мінскага гаркаму партыі, які прыйшоў да іх, каб агітаваць супраць «Дзядоў».



**Лідар групоўкі «Правы рэванш» Славамір Адамовіч.** Крыніца: «Пагоня», кастрычнік 1994 года

Славамір Адамовіч быў не проста звязаны з «Настаўніцкай газетай», а стала працаваў у ёй на працягу 1991–1995 гадоў. З першых жа яго артыкулаў у вочы кідаецца пункт погляду, які радыкальна разыходзіўся з тады яшчэ савецкімі ўстаноўкамі. Узяць, напрыклад, «Рэмінісцэнцыі з нагоды», апублікаваныя ў «Настаўніцкай газеце» за 3 ліпеня (дзень вызвалення Мінска) 1991 года. Адамовіч ставіць пад сумнеў эфектыўнасць партызанскага руху ў Беларусі падчас нямецка-фашысцкай акупацыі, лічыць, што фігура Марата Казея штучна створаная ўладамі, і што б калі ўсе «падшыванцы» былі, як Казей, дык беларусаў у тую вайну загінула б 100%. Гэта не магло не выклікаць істэрыі ў «сапраўдных патрыётаў». А адзін з іх, гомельскі настаўнік Эдуард Драбкін (1934 года нараджэння) у свой час паскардзіўся ў Міністэрства інфармацыі і ў галоўны партыйны орган — «Советскую Белоруссию». Аднак у Драбкіна нічога не атрымалася. Калі Славамір быў ужо ў турме, Эдуард Барысавіч «с удовольствием» у лісце да следчых органаў вітаў арышт «профашиста и ублюдка» Адамовіча.



**Адамовіч і шыкоўная ружа ў рэдакцыі газеты «Имя».** Крыніца: «Имя», люты 1997 года

Дарэчы, Драбкін з'яўляецца адным з аўтараў выдання «Дети войны. Народная книга памяти». Ён успамінае, як яму ў дзяцінстве так спадабаўся герб СССР, што малюнак ён павесіў над ложкам. Праўда, такая любоў да савецкага сімвалу і камуністычных ідэалаў не перашкодзіла «ветерану педагогического труда» пасля скону Саюзу эміграваць у Ізраіль і ў 80 гадоў дасылаць у раённы камітэт прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Цэнтральнага раёна Гомеля лісты з падзякамі.

Аднак вернемся да Адамовіча і «Настаўніцай газеты». На старонках гэтага выдання пачаў будавацца аўтарскі канцэптуальны канструкт-мірапогляд, у цэнтры якога Беларусь у атачэнні двух галоўных ворагаў: Расіі і Польшчы. Менавіта супраць іх уплыву Беларускі Край мусіў зрабіць адпаведныя захады. Што да Расіі, то, на думку Адамовіча, дзейным сродкам было б развянчанне іміджу расійска-савецкіх «стануочых герояў», які дзесяцігоддзямі ўбіваўся ў галовы школьнікаў і студэнтаў. Адным з першых крокаў, лічыў Славамір, была б карэнная рэарганізацыя Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя Суворава, накіраванне ягонай працы на карысць Беларусі. У адпаведным артыкуле «Дэканструкцыя культу» ў «Настаўніцкай газеце» ад 28 красавіка 1994 года Адамовіч давадзіў думку, што пад імем Аляксандра Васільевіча, які ніколі не ўдзельнічаў у вызваленчых войнах, у Беларусі дзейнічаюць антынацыянальныя сілы.

Аднačасова Славамір настойваў на гераізацыі тых падзеяў, якія б праслаўлялі Беларуска-Літоўскае Княства, у прыватнасці, перамогу ВКЛ на Масковіяй у бітве пад Оршай 8 верасня 1514 года. Вось што ён пісаў наконт прысягі, арганізаванай у Мінску Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў 8 верасня 1992 года на плошчы Незалежнасці, у якой удзельнічалі дэпутаты апазіцыі БНФ: «Мы запомнім гэтую дату, каб у час перамогі нашага нацыянальнага руху спагнаць па вэксалях з тых, хто яшчэ спадзяецца, што Беларусь застанецца на каленях».

Ды ўвогуле супраць расійскай прапаганды Славамір раіў вось што: «Трэба чытаць беларускую перыёдыку, каб правейваць нашы галовы ад шамурыння каланіяльнай псіхалогіі». І далей: «Раскрыццё і вяртанне ў сучаснае жыццё кубатуры гістарычных фактаў, якія звязаныя з нашай Тэрыторыяй і Краем, а таксама паліталагічна-канцэптуальны аналіз сітуацый мінуўшчыны і сённяшняга дня даюць грунтоўныя падставы для распрацоўкі стратэгіі і тактыкі заваявання Беларусі беларускаю ж ідэяй».

У гэтым на адно з першых месцаў Славамір ставіў «Нашу ніву», адраджэнне якой пад кіраўніцтвам Сяргея Дубаўца пачалося ў маі 1991 года: «Наша ніва» — гэта журналісцкі прафесіяналізм, гэта ясная пазіцыя ў прасторы сучасных актуалій. Гэта элементарная якасць пісьма».

Аднačасова Адамовіч перасцерагаў ад захаплення Тадэвушам Касцюшкам, бо ў выніку перамогі паўстання 1794 года на свет Божы з'явілася б новая Рэч Паспалітая, якая б паглынула Беларусь. Таму з сучаснай Польшчай трэба быць пільным, бо яна марыць пра вяртанне Заходняй Беларусі. Такая пазіцыя Адамовіча цалкам супадала з дзяржаўнай палітыкай таго часу. Вось што казаў шэф КДБ Эдуард Шыркоўскі на закрытым пасяджэнні дзясятай сесіі Вярхоўнага Савета 12 склікання 11 лістапада 1992 года: «Анализ материалов позволяет говорить, что польская сторона проводит целенаправленную и массированную обработку населения западных регионов республики в духе полонизации, пытается переориентировать его гражданское самосознание. При этом преследуется цель — создание хорошо организованной, идейно сплочённой на религиозной и национальной почве польской диаспоры, способной стать эффективным проводником политики Польши и при необходимости средством давления на Беларусь в межгосударственных отношениях. Такая политика Польши в перспективе может угрожать суверенитету и территориальной целостности Беларуси».

Захады супраць польскага ўплыву Славамір бачыў ва ўмацаванні беларускай мовы ў заходніх рэгіёнах, пашырэнні сфераў яе выкарыстання. Гэта было адлюстравана ў артыкуле «Адны чакаюць, другія будуюць...», дзе ішла гаворка аб выкарыстанні беларускай мовы ў навучальным працэсе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. У гэтым жа артыкуле Адамовіч вызначыў тры групы людзей, датычных да нацыянальнага руху: першыя займаюцца адраджэннем пад ціскам абставінаў, таму яны хутчэй ворагі; другія працуюць шчыра, але не ведаюць, што і як рабіць, ім патрэбны лідар; трэція — сапраўдныя энтузіясты, «ілюмінаты» нацыянальнага духу, якія «захоўваюць статус-кво нацыянальнага жыцця».

Які фармат беларускай мовы бачыў сам Адамовіч? У артыкуле «А мы ўсё аддаем даніну...» Адамовіч пытае: ці трэба развіваць «наркамаўку», ці вярнуцца да «тарашкевіцы». І, рашуча выступаючы супраць «наркамаўкі», адказвае: «Я выбіраю трэці шлях. Тарашкевіца — не стод, перад якім я мушу лоб разбіваць. Усе лепшае — бяру, астатняе — удасканальваю. Пры распрацоўцы правапісу варта ведаць, як мова павінна гучаць на

сцэне, што з ёй можа вытварыць паэт. Займаючыся лінгвістычна-рэфарматарскімі практыкаваннямі, мусім памятаць пра эстэтыку мовы, яе гігіену, калі хочаце».

Праз тэарэтычныя разважанні паэт не забываўся і на ўласную справу. У 1993 годзе выйшаў зборнік «Зямля Ханаан», у якім асабіста-лірычныя пачуцці творцы пераклікаюцца з патрыятычнымі.

### «Правы рэванш»

Асабістыя перакананні Адамовіча не маглі не абумовіць яго палітычных амбіцый. Славамір, якія заўсёды сімпатызаваў БНФ, марыў, аднак, пра стварэнне больш радыкальнай нацыяналістычнай арганізацыі. Першы крок на гэтым шляху быў зроблены 27 ліпеня (дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі) 1994 года, калі беларускія нацыяналісты прайшліся з паходнямі па сталічным праспекце Францыска Скарыны.

У канцы кастрычніка 1994 года ў інтэрв'ю гродзенскаму недзяржаўнаму выданню «Пагоня» Адамовіч распавёў пра арганізацыю «Правы рэванш», якая будзе структуравана па прынцыпе пяцёрак — «актыўна-сілавых каманд». Яны павінны выконваць заданні Цэнтра, але маюць шырокія паўнамоцтвы на месцах. Адамовіч апісаў адну з ідэяў групы: барацьба з «гастралёрамі» з гарачых кропак, якія «прынялі Беларусь за Рыа-дэ-Жанэйра».

Афіцыйна аб стварэнні «Правага рэваншу» было абвешчана на першым з'езде нацыяналістаў у Віцебску 26–27 лістапада 1994 года. Гэтая акцыя, у якой узялі ўдзел больш за 60 чалавек (прысутнічалі прадстаўнікі незарэгістраванай Нацыянальнай партыі і зарэгістраванай Партыі аматараў піва, у прыватнасці, яе лідар Андрэй Рымашэўскі), была прымеркавана да дня нараджэння ўраджэнца рэгіёна і выбітнага айчыннага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

Аднак у першы дзень у мастацкую галерэю Алеся Пушкіна, дзе адбываўся з'езд, уварваліся мясцовыя міліцыянеры і заявілі, што ў будынку — бомба. На адмову ўдзельнікаў разысціся праваахоўнікі выкарыстали сілу і траўмавалі журналіста віцебскага выдання «Выбар».

**Вынікам дзесяцімесячнай адсідкі стаў знакаміты першы «Турэмны дзённік» першага палітвязня. Адамовіч заклаў сумную традыцыю: турэмныя запісы публікавалі Саннікаў, Дашкевіч, Халіп, Аліневіч, Лябедзька, Някляеў, Бяляцкі, Дрозд, Севярынец, Фядута, Францкевіч...**

Віцебскі інцыдэнт 26 лістапада 1994 года стаў непасрэднай рэпетыцыяй да падзей у Вярхоўным Савеце ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995-га, калі дэпутаты ад апазіцыі, якія абвясцілі галадоўку супраць рэферэндуму, былі збітыя сілавікамі.

Аднак з'езд прайшоў. Акрамя стварэння «Правага рэваншу», 27 лістапада была агучана рэзалюцыя аб абароне Айчыны, недапушчальнасці распаўсюджвання расійскага фашызму на Беларусі. У рэзалюцыях ва ўсіх бедах краіны абвінавачваўся чалавек, які «займае пасаду прэзідэнта». Пад старшынствам Адамовіча быў утвораны аргкамітэт, які павінен быў займацца падрыхтоўкай другога з'езду (на ім ставілася мэта аб'яднання беларускіх нацыяналістаў).

Але ж улады не адступілі — і 27 лістапада разагналі мітынг удзельнікаў з'езду каля помніка Караткевічу. Адамовіч атрымаў трое сутак адміністрацыйнага арышту.

У снежні 1994 года ў інтэрв'ю «Выбару» Адамовіч прайшоўся непасрэдна па кіраўніку дзяржавы: «Грамадзянін Лукашэнка ажыццяўляе палітыку нацыянальнай здрады, што пацвярджаецца яго антыканстытуцыйнымі заявамі і дзеяннямі. Ад Кебіча яго больш адрознівае цынізм і пагарда да свайго народа, скрайні папулізм і дэмагогія, а таксама элементарнае невуцтва. Тут трэба гаварыць пра феномен хама, які выпадкова трапіў на троннае месца. Але ж вядома, што апошняе заўсёды суседзіцца з лобным».

Адным з накірункаў дзейнасці «Правага рэваншу» сталі лісты тым, хто, на думку яго чальцоў, стаў на шлях здрады краіне. У лістах «рэваншысты» катэгарычна патрабавалі ад адрасатаў спыніць сваю дзейнасць. Такія лісты ў канцы 1994 года атрымалі, у прыватнасці, рэдакцыя «Новай народнай газеты» (заснавальнік — Наталля Машэрава) і Саюз палякаў Беларусі. Апошні даслаў Адамовічу запыт патлумачыць, што і да чаго.

6 лютага 1995 года на сходзе рэгіянальных каманд «Правага рэваншу» ў Мінску быў дадзены адказ, у якім палякі былі названыя «этнапалітычнымі праціўнікамі» беларусаў. Паведамлялася, што перад рэгіянальнымі камандамі пастаўлена задача ліквідаваць уплыў прапольскіх элементаў на беларускі электарат. Польшча таксама крытыкавалася за тое, што падчас нямецка-фашысцкай акупацыі Армія Краёва знішчала беларусаў. У адказе папярэджваліся тыя, хто меў жаданне ажыццяўляць у Беларусі «брудныя гешэфты». У такім выпадку іх чакала «другая Чачня».

13 сакавіка 1995 года адбылася своеасаблівая піяр-кампанія «Правага рэваншу». У гэты дзень у Мінску прайшоў літаратурны вечар Славаміра Адамовіча, які даў інтэрв'ю сумнавядомаму рэжысёру Юрыю Азаронку і зачытаў яму верш «На дзень стварэння арганізацыі "Правы рэванш"» (з новага зборніка «Зваротныя правакацыі»), у якім была агучана ідэя прыходу да ўлады шляхам дзяржаўнага перавароту (без крыві і ахвяр). Гэты сюжэт Азаронак неўзабаве выкарыстаў у сваім фільме «Нянавісць: дзеці ілжы», які быў пашыты па лякалах сапраўднай таталітарнай прапаганды.



**Ціна Клыкоўская з прэзідэнтам Лукашэнкам. Гэта фота знікла пасля пагрому рэдакцыі «Нашай нівы» 24 красавіка 1996 года.** Крыніца: «Наша ніва», красавік 1996 года




**Групавое фота ўдзельнікаў «Правага рэваншу». Чорна-чырвона-чорны сцяг арганізацыі быў знойдзены ў жылым памяшканні Адамовіча ў сакавіку 1996 года і ўтылізаваны паводле рашэння спецыяльнай камісіі ў чэрвені таго ж года. Таксама была ўтылізаваная нарукаўная павязка паэта з «вышитым стилизованным изображением на черном фоне восьмиконечной звезды красного цвета, помещенной в восьмиугольник белого цвета».** Крыніца: «Пагоня», кастрычнік 1994 года

Славамір актыўна выступіў супраць «акупацыйнага рэферэндуму» 14 мая 1995 года (яго група неўзабаве пасля яго арганізавала мітынг каля будынка Адміністрацыі прэзідэнта з удзелам студэнтаў гістфаку БДУ), вёў грамадскую дзейнасць. У сталічным парку Горкага 21 чэрвеня 1995 года Адамовіч чытаў вершы, у тым ліку і «Развітальную для Сашкі».

Пакінуўшы «Настаўніцкую газету», Адамовіч пачаў пісаць для «Нашай нівы». Вялікі рэзананс набыла публікацыя «Звычайны фашызм–2» у пачатку красавіка 1996 года. У ёй Славамір распавёў падрабязнасці дзейнасці ў Беларусі РНЕ і абвінаваціў афіцыйныя ўлады, што яны спрыяюць рускім фашыстам. Адамовіч таксама раскрытыкаваў журналістку Ціну Клыкоўскую за тое, што яна на старонках прэсы папулярызуе беларускі філіял РНЕ і з задавальненнем фатаграфуецца з ягонымі чальцамі. У адказ журналістка даслала ў рэдакцыю «Нашай нівы» сумеснае фота з Лукашэнкам: маўляў, магу здымацца з тым, з кім захачу.

У такіх варунках сутыкненне Славаміра з галоўным актарам было непазбежным.

### У пекле

25 лістапада 1998 года, выступаючы на нарадзе, прысвечанай развіццю гуманітарных навук і павышэнню іх ролі ў дзяржаўным будаўніцтве, Лукашэнка звярнуўся да вучоных мужоў з нечаканым пытаннем: «Какой оппозиции вы хотите? Один оппозиционер, самый ярый, написал недавно верш "Убей президента!"».

Сапраўды, верш з такой назвай з'явіўся ў 8-м нумары віцебскай газеты «Выбар» Барыса Хамайды за студзень 1996 года (калькай для Славаміра паслужыў антыфашысцкі твор Канстанціна Сіманава 1942 года «Убей его!»). У вершы адсутнічала назва краіны і прозвішча яе кіраўніка. Мабыць, гэтым тлумачыцца, што ўлады адрэагавалі не адразу, а чакалі зручнага моманту. І ён настаў, калі Славамір зрабіў палітычны перфоманс: паехаў на беларуска-літоўскую мяжу (з мэтай абазначыць дакладныя граніцы Краю) і быў затрыманы 4 красавіка 1996 года (верш «Сустрэча. Афіцэрам Смаргонскага пагранатраду»).

Тады ўлады згадалі ўсё (24 красавіка 1996 года ў рэдакцыі «Нашай нівы» праваахоўнікі ўчынілі сапраўдны разгром і канфіскавалі ўсе рэчы, датычныя Адамовіча) і ўзбудзілі супраць Славаміра адразу тры крымінальныя справы (публічная знявага прадстаўніка ўлады, спроба незаконнага перасячэння мяжы і нашэнне халоднай зброі). У зняволенні Славамір знаходзіўся з 4 красавіка 1996 года па 7 лютага 1997 года (суд адбыўся ў Віцебску). Вынікам дзесяцімесячнай адсідкі стаў знакаміты першы «Турэмны дзённік» першага палітвязня. Адамовіч заклаў сумную традыцыю: турэмныя запісы палітвязняў Андрэя Саннікава, Зміцера Дашкевіча, Ірыны Халіп, Ігара Аліневіча, Анатоля Лябедзькі, Уладзіміра Някляева, Алеся Бяляцкага, Зміцера Дразда, Паўла Севярынца, Аляксандра Фядуты, Аляксандра Францкевіча. Хочацца спадзявацца, што падобнага больш не будзе.

Няма сэнсу падрабязна пераказваць «Турэмны дзённік» Адамовіча. Гэты твор — падарожжа не толькі ў самае пекла і дагэтуль закрытай беларускай пенітэнцыярнай сістэмы, а і ў чалавечыя душы, у якіх у экстрэмальных і неспрыяльных умовах прарастае ўсё агіднае. Чаго варты запіс Славаміра ў дзённіку 24 мая 1996 года: «Вось дзе яскравы прыклад б...й беларускай натуры: цярпець смурод і спадзявацца, што прыйдзе іншаземец і нешта дасць (работу, шчасце, спакой, новую Радзіму і г.д.)».

У сувязі са справай Славаміра трэба прыгадаць і такі факт. 23 лістапада 1996 года «Знамя юности» надрукавала занатоўку Уладзіміра Максімава «Не с кистенём стоял в подъезде — писал "убойные" стихи». У ёй аўтар кпіў з абвешчанай Адамовічам галадоўкі і дазволіў сабе нападкі на яго маці Юзэфу Чантарыцкую.

Падобныя «опусы» — яскравыя сведкі пачатку маральнай дэградацыі дзяржаўнай прэсы ў тыя гады, калі размова ішла пра палітычных праціўнікаў рэжыму. Квінтэсенцыяй такой дэградацыі стала публікацыя 6 сакавіка 2009 года «Советской Белоруссией» фельетона Ксенафонта Суперфасфатава (неўзабаве стала вядома, што за псеўданімам стаяў сам галоўны рэдактар Павел Якубовіч) пад назвай «Много у нас диковин, каждый из нас — Бетховен!». Фельетон здзекаваўся з салігорскай праваабаронцы Яны Паляковай і паслужыў, як лічаць многія, штуршком да яе самагубства.

Славамір вытрымаў і выйшаў на свабоду. У гэтым яму дапамаглі ўсе: адвакат Гары Паганяйла, эксперты Алег Лойка і Міхась Тычына, якія даказвалі, што «Убей президента!» — зусім не інструкцыя да замаху на кіраўніка дзяржавы, а літаратурны эпатаж. Спрыялі недзяржаўная прэса, увага еўрапейскай супольнасці (вялікую ролю тут праз «Радыё Свабода» адыграў каардынатар парламенцкай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 склікання Сяргей Навумчык), умяшанне прадстаўнікоў расійскай культуры (Булат Акуджава, Андрэй Вазнясенскі, Бела Ахмадуліна і іншыя), бясконцыя пікеты ў Мінску і Віцебску, якія разганяліся міліцыянерамі.

«Турэмны дзённік» Адамовіча — гэта гістарычная рацыя, трыумф духу над бязлітаснай дзяржаўнай рэпрэсіўнай машынай, вернасць слову і ідэалам і любоў да Беларусі, куды паэт усё ж вярнуўся пасля шматгадовай эміграцыі.

24 ліпеня 1996 года паэтарыштант зрабіў такі запіс у дзённіку: «Трэба жыць! Хачу ўбачыць паразу ворага і трыумф нацыянальнага духу».

Лявон ЦЕЛЕШ

# Народжаны ў Расіі

**Жыццё чалавека поўнае нечаканасцяў, крутых паваротаў, зігзагаў лёсу. Часцяком бывае так, што чалавек нарадзіўся ў адным месцы, а пражыў усё жыццё, праявіў свой талент, свае лепшыя здольнасці ўдалечыні ад радзімы.**


Мікалай Пушкар


Экспанаты музея

Яскравым прыкладам з'яўляюцца шляхі кіраўніка паўстання 1794 года Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, які набыў шырокую вядомасць у ЗША і Францыі, а таксама геолага, падарожніка Ігната Дамейкі, якому народ Чылі надаў высокае ганаровае званне народнага героя. Але багата і прыкладаў, калі ўраджэнцы іншых краін, жывучы ў Беларусі, зрабілі вялікі ўнёсак у духоўнае і культурнае жыццё нашай краіны.

Таленавіты майстар-кераміст, мастак Мікалай Мікітавіч Пушкар нарадзіўся ў 1919 годзе ў мястэчку Барысаўску, што ў Белгародскай вобласці, у сям'і іканапісцаў. У раннім дзяцінстве ён застаўся без бацькоў і выхоўваўся ў дзіцячай калоніі імя Максіма Горкага, якую ўзначальваў знакаміты педагог і пісьменнік Антон Макаранка.

Ужо ў раннім дзяцінстве ў Міколы выявіліся здольнасці да малявання, якія дасталіся яму ў спадчыну ад бацькоў-мастакоў. Талент выхаванца не застаўся незаўважаным Антонам Макаранкам, і ў 1932 годзе, па хадайніцтве Максіма Горкага (!), юнак быў залічаны ў Харкаўскае мастацкае вучылішча, якое скончыў у 1937 годзе.

Наступныя гады яго жыцця былі напоўненыя цяжкімі выпрабаваннямі. У 1939-м ён быў прызваны ў Чырвоную Армію, і ў першыя дні вайны апынуўся на фронце. У жніўні 1941 года танкавы полк, у якім Мікалай ваяваў, быў поўнасцю разгромлены, а баец-танкіст Пушкар, цяжка паранены і кантужаны, апынуўся ў варожым палоне. Доўгіх чатыры гады ён утрымліваўся ў нямецкім канцлагеры Гамерштайн. Баец выжыў, і ў 1945 годзе яго вызвалілі савецкія войскі.

Але замест вяртання на родную Белгародчыну, самае «гуманнае» ў свеце савецкае правасуддзе прысудзіла яму за знаходжанне ў палоне 15 гадоў сталінскіх лагераў. І толькі ў 1954 годзе пакутнік Пушкар атрымаў доўгачаканую волю. А рэабілітаваны як бязвінна асуджаны ён быў аж у 1962 годзе.

Некаторы час пасля вызвалення Мікалай Пушкар жыў і працаваў скульптарам у Карагандзе, затым пераехаў у Калінінград (былы Кёнігсберг), дзе пазнаёміўся і звязаў свой лёс з Ганнай Міхайлаўнай, ураджэнкай Мазыра, з якой ён і пераехаў на жончыну радзіму на сталае жыццё. У гэтым прыгожым горадзе на беразе Прыпяці і раскрыўся напоўніцу яго талент. На грамадскіх пачатках на адным з мазырскіх прадпрыемстваў ён стварыў цэх керамікі, дзе навучыў многіх майстэрству лепкі і абпальвання керамічных вырабаў.

Часта ён выязджаў у навакольныя палескія вёскі, дзе знаёміўся з мясцовымі жыхарамі, іх фальклорам, у гутарцы з сялянамі засвойваў сакавітую беларускую мову. Вынікам гэтых паездак з'явілася стварэнне мастаком цэлай галерэі вобразаў мясцовых жыхароў. Усе яго мастацкія працы вызначаюцца глыбокай лірычнасцю, веданнем беларускіх народных звычаяў, гумарыстычнай трактоўкай сюжэтаў і персанажаў.

Я наведаў Мазыр, горад майго дзяцінства і юнацтва, і наведаў музей-майстэрню Мікалая Пушкара, які знаходзіцца ў прыгожым аднапавярховым будынку на месцы, дзе пры жыцці мастака была яго майстэрня. Прыемна адзначыць, што надпіс на будынку музея, таксама, як і назвы ўсіх экспанатаў, зроблены на беларускай мове.

Кожная з работ Пушкара — цэлая сюжэтная аповесць, якая дапаўняецца ўдалай назвай: гэта і «Несцерка», і «Сон палешука», і «Палеская прыгажуня», «Мы з табою, як рыба з вадою». А гліняная фігурка жанчыны з пачарнелым ад гора тварам называецца «Халодныя камяні Чарнобыля».

Уражвае і аўтапартрэт, на якім Пушкар выявіў сябе з партбілетам у руцэ і з нашыўкамі на вопратцы вязня нямецка-фашысцкіх і сталінскіх лагераў. Аўтапартрэт яму дапамагаў стварыць таленавіты мазырскі мастак, сябар Саюза беларускіх мастакоў Мікола Дуброва.

За 28 гадоў сваёй творчай дзейнасці ў Беларусі Пушкар больш за 300 разоў удзельнічаў у выставах у рэспубліцы, у розных гарадах былога Савецкага Саюза, а таксама ў Канадзе, Японіі, Польшчы, Балгарыі. Яму было нададзена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі», і ён быў прыняты ў Саюз мастакоў Беларусі і Савецкага Саюза. Шмат работ мастака знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Памёр таленавіты мастак у 1993 годзе. Народжаны ў Расіі, Мікалай Пушкар шчыра любіў сваю другую Радзіму — Беларусь, і яна па-мацярынску адказвала яму ўзаемнасцю.

**Фота аўтара**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №98

Падпісана да друку 04.05.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.